ПАДПІСКА »БОЖЫМ ШЛЯХАМ« НА 1976 г.:

У Задзіночаных Штатах Амэрыкі — 3 даляры.
У Вялікабрытаніі — £ 1-00.
У іншых краінах у суме раўнаважнай £ 1-00.

---

ЧАСАПІС МОЖНА ЗАКАЗЫВАЦЬ:

У Задзіночаных Штатах:

Mr. Antony Bielenis, 3006 Logan Blvd, Chicago, Ill. 60647, USA.
Mr. B. Danilovich, 303 Hovard Str., New Brunswik, New Jersey, USA.
Mr. Ch. Najdziuk, 833 N. Coronado Str., Los Angeles, Calif., USA.
Mrs. J. Kachanovska, 8 St. Mark's Pl., New York, N. Y., USA.

У Канадзе:

Mr. Pituška, 116 Grand Ave., Toronto, Ont. 560, Canada.

---

Матар'ялы прызначаныя да друку ў нашым часапісе слаць на адрас:

Rev. F. Žurnia, MARIAN HOUSE,
HOLDEN AVENUE, LONDON, N12 8HY.,
Gt. Britain.

**УВАГА:** Адрас просім пісаць з усімі знакамі — N 12, азначае North, а не нумар.


# ON GOD'S HIGHWAY

**Year XXIV** **1976** **№ 1-2 (147-148)**

*MARIAN HOUSE, HOLDEN AVENUE,*
*LONDON N12 8HY.,*
*GREAT BRITAIN.*


© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# БОЖЫМ ШЛЯХАМ

ГОД XXIV 1976 № 1-2 (147-148)

Ч. С.

# МІЖНАРОДНЫ ЭЎХАРЫСТЫЧНЫ КАНГРЭС

**1-8 жніўня 1976 г.**




Мэтай Міжнародных Эўхарыстычных Кангрэсаў ёсьць пашырэньне і паглыбленьне публічнай чэсьці да Хрыста пад відам Сьвятых Дароў. Звычайна на такіх кангрэсах адбываюцца вельмі ўрачыстыя Багаслужбы, дзённыя і начныя адорацыі Сьвятой Эўхарыстыі, даклады і дыскусіі, у якіх паглыбляюцца веды аб Хрыстовых Тайнах і парушаюцца сучасныя жыцьцёвыя праблемы.

Пачаткі сяньняшніх кангрэсаў ня вельмі даўнія (1874 год падаецца як дату першага Эўхарыстычнага Кангрэсу ў Францыі) і адбываліся яны перш нерэгулярна і толькі апошніх некалькі кангрэсаў адбываліся што чатыры гады.

Беларусы прыймалі удзел у некаторых Эўхарыстычных Кангрэсах: у Чыкага у 1925 г., у Дубліне ў 1933 г., у Мюнхэні ў 1960, калі быў высвячаны на біскупа а. Ч. Сіповіч. Найлепш аднак падгатоўлены і афіцыйна заапрабаваны удзел беларусаў без сумлеву быў на апошнім кангрэсе у Філядэльфіі.

—*—

Лозунг кангрэсу ў Філядэльфіі быў *»Эўхарыстыя і голад у людзкой сям'і«*.

Голад разумеецца тут у вельмі шырокім абсягу: духовы голад Бога, нястача штодзённага хлеба, нястача свабоды і справядлівасьці, голад праўды, супакою, голад Хлеба Жыцьця (Хрыста ў Эўхарыстыі). Кожны дзень кангрэсавага тыдня быў пасьвячаны якойсьці канкрэтнай праблеме сучаснага жыцьця. Хаця коратка успомнім іх тут.

Панядзелак, 2. 8. — Дзень Сям'і дзень памяці пра галадаючых у сьвеце, таму быў гэта дзень посту.

Аўторак, 3. 8. — Дзень церпячых. Выпадала помніць і маліцца за тых, што зьнямажаныя хваробай церпяць у шпіталях, што стаюцца самотнымі, бязсільныя дзеля веку.

Серада, 4. 8. — Дзень прысьвячаны сьвятарам і законьнікам, дзень малітваў за сьвятарскія прызваньні.

Чацьвер, 5. 8. — Дзень экумэнічных спатканьняў і зьбліжэньня хрысьціян, як жадаў Хрыстос, каб усе былі адно.

Пятніца, 6. 8. — Дзень моладзі і дзяцей.

Субота, 7. 8. — Дзень народаў сьвету, паўсюднасьці Царквы, дзень сьвятой Літургіі ва ўсходнім абрадзе.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010





Нядзеля, 8. 8. — Літургія падзякі Богу за Дары Эўхарыстыі, прамовы папскага легата, кард. Я. Кроля, Старшыні Арганізацыйнага Камітэту Кангрэсу, прамова прэзыдэнта Амэрыкі Форда, зачыненьне Кангрэсу.

З гэтай праграмы можна бачыць, як багаты зьмест быў Эўхарыстычнага Кангрэсу ў Філядэльфіі! Апрача таго ў розных касьцёлах адбываліся набажэнствы для розных этнічных групаў і арганізацыяў. Субота дня 7 жніўня была прызначаная для літургіяў успомненых групаў (у праграме былі пададзеныя 23), у тым ліку і для беларусаў. У вольным часе ад багаслужбаў чыталіся даклады, адбываліся прадстаўленьні, канцэрты. У Грамадзкім Цэнтры ў вялізарнай будыніне можна было зведываць выстаўку, дзе знаходзілася больш тысячы стэндаў розных нацыяў і згуртаваньняў, якія шмат улажылі стараньняў, каб паказаць сваё найлепшае рэлігійнае і нацыянальнае. Кожны прыймаў цябе ветліва, надзяляў літаратурай найчасьцей прапагандовага характару. Рабілі гэта ўсе, рабілі тое-самае і беларусы.

**Удзел беларусаў**

Перш пададзём сумны факт з мінулага, які дапаможа нам ацаніць удзел беларусаў у нядаўна прайшоўшым кангрэсе.

У днях ад 2 да 10 траўня 1931 г. адбыўся ў Вільні Архідыецэзальны Эўхарыстычны Кангрэс, якога арганізатарам і кіраўніком быў архібіскуп Рамуальд Ялбжыкоўскі. Вось што пра яго пісала ў сваей перадавіцы »Хрысьціянская Думка« (25. V. 1931, Нр. 10):

»Архідыецэзальны Эўхарыстычны Кангрэс у Вільні адбыўся дужа ўрачыста і з вялікай карысьцяй для Хрыстовых вызнаўцаў нашай архідыецэзіі. Аднак сьмеем думаць, што Кангрэс гэты яшче больш прынёсбы людзкім душам карысьці, калі-б ён, *замест выключна характару польскага, быў Кангрэсам архідыецэзальным міжнародным, з афіцыяльным дапушчэньнем да яго каталікоў беларусаў і літоўцаў, што на вялікі жаль, зроблена не было*«.

Той жаль, які выказаў аўтар (а. А. Станкевіч), быццам тое страшнае рэха ў час навальніцы перадаецца і нам. Ці-ж можна зразумець той тупы шавінізм унутры Хрыстовай Царквы, каторы не дапусьціў беларусаў на сваей роднай зямлі праслаўляць Бога ў сваей роднай мове-!

Чагось падобнага не было на 41ым Міжнародным Кангрэсе ў Філядэльфіі. Ён быў запраўды *міжнародным!* Беларусы як і ўсе іншыя этнічныя групы былі афіцыйна запрошаныя на Кангрэс і вага удзелу кожнай групы залежала нятолькі ад ліку вернікаў, але і ад іхняй зарганізаванасьці.

Беларусы прыймалі ўдзел — пераважна моладзь — у парадзе-працэсіі першага дня, калі быў вельмі ўрачыста адчынены Кан-



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010





грэс; яны мелі для свайго ўжытку прыгожую сьвятыню імя Маці Божай Бязгрэшна Пачатай, у якой адбыліся дзьве беларускія багаслужбы: дня 7 жніўня ва ўсходнім абрадзе ў саслужэньні біскупа Ч. Сіповіча, а. архімандрыта У. Тарасэвіча і дыякана Э. Вайцяхоўскага ў прысутнасьці Арушыйскага біскупа з Танзаніі Я. Д. Вінцэся Дэрнінг і шматлікіх вернікаў; другая багаслужба была адпраўленая ў лацінскім абрадзе. Прысутнічаў на ей прадстаўнік Усходняй Кангрэгацыі пралат Поцці. На абёдзьвых багаслужбах казань гаварыў біскуп Сіповіч ў ангельскай і беларускай мовах. Традыцыйна называная лацінская літургія была адслужана поўнасьцю ў беларускай мове ў перакладзе з лацінскай зробленым яйцом Язэпам Гэрманівічам. Чыкагоўскі хор парахвіі сьпяваў беларускія набожныя песьні. На ўсіх урачыстасьцях хорам кіраваў Амброжы Сіерс.

Дня 3 жніўня на плошчы Стадыёну Вэтэранаў першым архісьвятаром быў кардынал Кароль Вайтыла, архібіскуп Кракаўскі. Ён гаварыў казань па-ангельску і па-польску. 24 этнічныя групы прыймалі дзейны удзел у гэтай Літургіі. Ў беларускай мове Вера Бартуль прачытала наступную малітву:

»За нашага Сьвятога Айца, Папу Паўла, за ягоных братоў Біскупаў і за цэлую Царкву, каб мы маглі мець свабоду вяшчаць Божую навіну сьвету, — Госпаду памолімся!« (Пераклад з лац. мовы А. Адамовіча).

Іншага зьместу малітву, таксама ў беларускай мове, прачытаў Антон Беленіс, беларус з Чыкага, дня 8 жніўня на апошняй урачыстай Літургіі Эўхарыстычнага Кангрэсу, якую служылі Папскі Легат кардынал Нокс, а з ім саслужылі кардыналы, біскупы з'ехаўшыяся з усяго сьвету і прысутнічаў на ей і прамаўляў прэзыдэнт Амэрыкі Форд. Стадыён імя Кэннэдзі быў перапоўнены вернікамі, а зьмясьціць ён можа 100.000!

Удзел беларусаў у дзейнасьці Эўхарыстычнага Кангрэсу праявіўся таксама ў Літургіі ўсходня-бізантыйскіх абрадаў, якую саслужылі мэльхіцкі патрыярх Максім VI (Гакім), мітрапаліт Коціско, біскупы і сьвятары розных народаў. Ад беларусаў саслужылі біскуп Ч. Сіповіч і архімандрыт У. Тарасэвіч, а беларускі хор з Чыкага сьпяваў некаторыя літургічныя сьпевы. Невялікі быў наш хор у параўнаньні да карпатаросаў і украінцаў, але ён сваю ролю выпаўніў і сьпяваў не слабей прыкладам ад мэльхіцкага.

Нарэшце — выстаўка! Аб ей мы ўжо успомнілі, але яшчэ раз варта да яе вярнуцца. У сьпіску усіх занятых стэндаў падаецца 1166, наш беларускі квадрат знаходзіўся пад нумарам 263. Хто зьведаў выстаўку, мог пераканацца, што яна зьяўлялася паказьнікам амэрыканскай Каталіцкай Царквы. Там нятолькі розныя этнічныя групы, пачынаючы ад індыянаў паказвалі свае народныя і рэлігійныя сьвятасьці, але выдаўцы кніжак — свае публікацыі, прадпрыемствы — сваю пра-



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

дукцыю, арганізацыі ідэолёгічных напрамкаў хітра-мудра стараліся зьвярнуць на сябе ўвагу. І так можна было аглядаць стэнды прысьвячаныя Эдзіт Штайн, мітрапаліту Шэптыцкаму, падрэ Піо, ведамаму капуцынскаму стыгматыку; апосталяту Айцоў Марыянаў з цэнтрам у Стакбрыдж, абраду мэльхітаў і г. д.

Наш беларускі стэнд вырозьніваўся эстэтычным выглядам. Заслуга ў гэтым сп. Кобленца з Чыкага і а. арх. Тарасэвіча, якія не пашкадавалі ані грошаў ані часу, каб зрабіць усё магчымае, каб апраўдаць можа і за-шумны напіс на ім: Тысячагодзьдзе Беларусі!

Іконы беларускіх сьвятых патронаў з вісячай лампадкай, здымкі беларускіх сьвятароў мучанікаў і патрыётаў, вышыўкі ў народным стылю (уласнасьць сям'і Будзькаў), дзяружкі, дыванок работы сп-ні Савёнак, розныя публікацыі — усё гэта прыцягвала шматлікіх наведвальнікаў. Шкада толькі, што пры нашым стэндзе не было памятнай кніжкі, у якой маглі-б пакінуць свой подпіс наведвальнікі! Тут трэба ўспомніць і нашых вартаўнікоў стэнду: Веру Бартуль, Аню Зінкевіч, Антона Шукелайця, Элеанору Клгяйнбах, акія інтэлігетным словам, выглядам сваім у народнай вопратцы і ветлівасьцю шмат зрабілі прапаганды для беларускага імя. Дапамаглі нямала ім у гэтым надрукаваныя брашуры ў ангельскай мове пра Беларусь і пра рэлігійнае паложаньне ў БССР. Беларускі стэнд наведалі біскупы, сьвятары, законьнікі і законьніцы, дзеячы розных нацыяў. Варта заўважыць, што кіраўнічкай усей выстаўкі была законьніца сястра Кацярына ФітзПатрык.

Калі столькі народу праходзяць каля выстаўкі, рознае можа здарыцца. Так яно было і каля беларускага стэнду: адны пыталіся, другія дзівіліся, іншыя проста паказвалі няведу . . . Але вось здарыўся і такі выпадак. У белых стройных габітах прыйшлі дзьве законьніцы. Стаяць, уважна вачамі перабіраюць прадмет за предметам. Адна з іх перайшла на расейскую мову. Дайшло да агляданьня альбому, дзе між іншым былі здымкі айцоў Абрантовіча, Цікоты, Гэрмановіча, А. Станкевіча. Калі ўбачыла здымак а. Абрантовіча проста накінулася на яго, стала цалаваць. Сьлёзы з вачэй ліліся як гарох. Калісь яна была вучаніцай у Харбіне, вельмі добра знала Айцоў. Чула, што яны загінулі, але дзе, калі і як? Яна плакала з радасьці, што знайшла іх тут! Што яны для кагось жывыя, закатаваныя камуністамі — але не памерлі! Законьніца гэта — армянка. У ейнай памяці захаваўся незацёрты часам воблік Айцоў — ідэал сьвятароў. Дала свой адрас, каб у патрэбе магла даць сьвядоцтва праўдзе.

**Асабістасьці на Кангрэсе**

Эўхарыстычны Кангрэс такіх разьмераў, як у Філядэльфіі, стаўся вогнішчам, якое прыцягнула нятолькі масы звычайных сьмяротнікаў, але й нямала асабістасьцяў, пра якіх ужо сьвет знае.



**Я. Д. Біскуп Г. Камара**

Хто-ж ня чуў пра бразылійскага біскупа Гэльдэр Камара, які аддае душу і цела, каб толькі дапамагчы бядоце, накарміць галодных? На Ватыканскі Сабор ён прыбыў з дрэўляным крыжом на грудзях і ў кожнай сваей прамове дамагаўся, каб царкоўныя герархі падрэзалі доўгія свае шаты, каб адкінулі ўсялякі бліхтр і напышанасьць.

Бэльгійскі кардынал Сунэнс. Заядлы кры-



**Я. Эм. Кард. Я. Сунэнс**



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

тык устарэлых рэгулаў для законьнікаў і асабліва законьніц, адзін з вядучых айцоў апошняга Сабору, пасьлядоўнік і кіраўнік харызматыкаў. На найбольш афіцыяльных зборках ён можа засьпяваць — хоць-бы сабе і ня ў тон — нейкую набожную песьню. Прыбыў на Кангрэс, каб служыць Літургію для харызматыкаў.

Кардынал Віллібрандс меў даклад на экумэнічнай зборцы, гаварыў казань у час экумэнічнай службы, якая ўзварушыла сэрцы ўсіх, асабліва, калі хор сьпяваў: »Новае прыказаньне даю вам, каб любілі адзін другога«, а достойнікі розных веравызнаньняў мылі людзям ногі на падабенства, як гэта зрабіў Хрыстос на апошняй вячэры.

Кардынал Кроль — гаспадар і арганізатар Кангрэсу з польскай сям'і. Ягоны бацька быў небагаты эмігрант. Меў вялікую сям'ю, у якой адзін сын захацеў пасьвяціцца духоўнаму стану. Студыяваў у Рыме права. Хутка стаў біскупам у Клівэлянд, дзе спатыкаўся з біскупам БПАЦ Васілём Тамашчыкам. Пры першым спатканьні з біскупам Сіповічам, кардынал Кроль падараваў яму цэнны пярсьцёнак са славамі: »Дала мне яго беларуска, няхай ён і належыць да беларускага біскупа«. У лісьце да біскупа Ч. Сіповіча з дня 2 верасьня 1976 г., у якім дзякаваў яму за удзел у Эўхарыстычным Кангрэсе, між іншым пісаў: »Я бязмежна ўдзячны Богу, біскупам, сьвятаром, законьнікам і людзям сьвецкім за іхнюю падтрымку і за супрацоўніцтва. Маей адзінай надзеяй ёсьць і за гэта малюся, каб прызыў і дабрадзействы Кангрэсу паслужылі да ўзросту сьвятасьці ў народзе Божым«.

Кангрэс у Філядэльфіі — гэта праца і пот кард. Кроля, гэта вынік Божай ласкі і ягонага генія, які ей быў верны.

Біскуп Фультан Шын — зорка тэлевізіі і мастак каталіцкіх радыяпередачаў. Чалавек незвычайна добрага сэрца, інтэлігентны і плодны пісьменьнік.

Да сьпіску слаўных кардыналаў і біскупаў можна было-б дадаць цэлы сьцяг сьвятароў, законьніцаў, сьвецкіх дзеячоў, якія прыбылі на Кангрэс і дзейны бралі ў ім удзел. Ня маем змогі аб усіх іх весьці гутарку. Ня можам аднак прамаўчаць адной асабістасьці — Маці Тэрэсы!

Невялікага росту, асцэтычны ўдумлівы твар падобны да гіндускі, хаця па сваім паходжаньні ёсьць альбанкай, галава і ўся постаць акрыта белым габітам і памяркоўна нахіленая. Вельмі скромная жанчына, а дзе толькі яна пакажыцца, фотографы, журналісты за ёй гужам. А сколькі-ж з моладзі і ўсякага веку і стану прасіла ў яе аўтографаў! Ды — мы беларусы карыстаючы з таго,



**Маці Тэрэса**

што сядзелі разам з ей на адным з дакладаў, дасталі аж два.

У чым-жа веліч і слава гэтай жанчыны? Яна-ж — барані Божа — ані Грэта Гарбо, ані Альжбета Тэйлёр, ані іншая фільмовая зорка . . . Яна ў кожным людзкім адкідышу, будзь гэта саплівая дзіцянё, ці з'едзіны пракажай бядняга — бачыць самога Хрыста. А калі Хрыстос усюды і ва ўсіх — трэба ўсім дапамагчы. І яна мае ўжо сваю армію: 1000 законьніцаў, Сясьцёр Міласэрдзя, якім дапамагае 180 братоў і каля 80,000 добраахвотных работнікаў. Яна мае 93 цэнтры разсеяныя па ўсім сьвеце, зь якіх толькі 61 ў самой Індыі. 67 цэнтраў шпіталяў для пракажоных, у якіх знаходзіцца каля 46,000 хворых.

І што дае сілу ўсім працаўнікам Маці Тэрэсы? Малітва! А вялікі ідэал прыцягвае і ўцягвае, як тая пропасьць.

Маці Тэрэса ўжо за жыцьця, як другі сьвяты Францішак, мае у людзей апінію сьвятасьці. Пэўне-ж, пакуль жыве, сваю сьвятасьць як і ўсе мы носіць у гліняным гаршку. (Пра Маці Тэрэсу »Б.Шл.« ужо пісаў. Глядзі Нр. 128, 1971, с. 8-9).

——*——

Эўхарыстычны Міжнародны Кангрэс прайшоў ужо да гісторыі, асабліва хрысьціянскай Амэрыкі, якая ў гэтым годзе святкуе 200-е лецьце сваей незалежнасьці. Беларусы ў Амэрыцы ёсьць толькі адной з этнічных групаў, але маюць больш там свабоды чымся ў сваей бацькаўшчыне. Што беларусы умеюць карыстаць з яе, паказалі ў гэтым годзе Беларускі Фэстываль і 41-ы Міжнародны Эўхарыстычны Кангрэс. ●



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

JESUS, THE BREAD OF LIFE

**41st International Eucharistic Congress**

222 North Seventeenth Street
Philadelphia, Pa. 19103
(215) 587-3987

Chairman of the Board of Governors
His Eminence
John Cardinal Krol

Executive Vice-Chairman
The Most Reverend Martin N. Lohmuller
Auxiliary Bishop of Philadelphia

Executive Secretary
The Rev. Walter J. Conway, J.C.D.

March 12, 1976

His Excellency
The Most Rev. Ceslaus Sipovich, D.D.
Marian House
Holden Avenue
London n. 12, 8 MY, England

Your Excellency:

The Archdiocese of Philadelphia will be the host to the 41st International Eucharistic Congress, August 1-8, 1976. The theme of the Eucharistic Congress is "The Eucharist and the Hungers of the Human Family."

The seventh day of the Congress, Saturday, August 7, has been designated "Peoples of the World Day." The sub-theme for this day is "The Eucharist and the Hunger for Peace." On this day over twenty national and racial heritage groups will have special liturgies at various times throughout the day.

The Byelorussian group, who are preparing the program for the Byelorussian participation in the 41st International Eucharistic Congress, joins me in extending to your Excellency an invitation to be the principal concelebrant and to deliver the homily at this liturgy on Saturday, August 7, at 11 a.m. in the Immaculate Conception Chapel, Philadelphia. The suggested ideal time for the homily is about 15 minutes.

With the hope that your Excellency is disposed, and your schedule permits you, to accept this invitation and with sentiments of cordial esteem, I remain

Fraternally yours in our Lord,

John Cardinal Krol

Archbishop of Philadelphia



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

а. Т. ПАДЗЯВА

# ДОБРАЯ НАВІНА — XVI-АЯ КАТЭХЭЗА

*Бог Запавету.*
*Бог прадвечна любіць чалавека і кліча яго да супольнасьці з Сабою.*

Гаворачы аб гісторыі выратаваньня сьв. Павал кажа: »Усё гэта ёсьць толькі цень будучага« (Кал. 2, 17) і: »Усё гэта сталася, каб магло паслужыць як прыклад для нас« (I Кар. 10, 6).

Найстарэйшае Божае об'яўленьне дайшло да нас праз патомкаў Абрагама. Запісанае ў Кнізе Быцьця, яно паказывае, што Бог зрабіў для чалавека. Адначасна адкрывае нам Божыя пляны і Божыя тайны. А робіць яно ўсё гэта ў форме апавяданьня аб трох вялікіх асобах: Адаме, Ною і Абрагаме.

Бог стварыў Адама. Надзяліў яго ўсялякім дабром. Зрабіў яго сваім сынам і ў ім хацеў зрабіць дзяцьмі усіх людзей. Хаця Адам не паслухаў Бога — Бог не зьмяніў свайго пляну. Ён далей праводзіць сваю любасьць: усім дзецям Адама прыракае перамогу над чортам і грэхам.

У апавяданьні аб тым, як Бог ратаваў Ноя ў час патопу, Кніга Быцьця падкрэсьлівае, што Бог зрабіў яго айцом новага чалавецтва і даў яму, як калісь Адаму, загад: »Няхай размнажаюцца!« (Быцьця, 8, 17). Бог з Ноям робіць дагавор, які ў Сьвятым Пісаньні завецца Запаветам і абяцае, што гэтак больш людзей караць ня будзе: »Я раблю Запавет з вамі і з вашымі патомкамі, якія будуць пасьля вас« (Быцьця, 9, 9). Праз гэта Бог паказывае сваю любасьць Ною і ягонай сям'і, а праз іх усім людзям аж да канца сьвету.

Калі Бог кліча Абрагама і прыракае яму, што ў ягоным патомстве »ўсе народы зямлі будуць атрымліваць дабро« (Быцьця 22, 18), гэтым самым робіць яго айцом усіх веруючых. Вядзе яго ў Абяцаную Зямлю, ды апякуецца ім і ягонымі патомкамі. Такім спосабам Бог прыгатаўляе край і народ, з якога пасьля стагодзьдзяў выйдзе Выратавальнік усіх людзей. Па сьмерці Абрагама Бог выкарыстае ягонае племя для сваей справы. Зробіць гэта на карысьць усіх.

Апавяданьні Кнігі Быцьця паказываюць вялікую Божую тайну. Бог любіць людзей. Хоча ўсіх іх пацягнуць у супольнасьць і сужыцьцё з сабою. Робіць гэта цераз выбраных *пасьрэднікаў,* выкарыстоўваючы як адзінкі так і цэлы народ. Калі паказваецца ім ды аб'яўляе сваю любасьць, робіць гэта для ўсіх.

—*—

Падзеі апісаныя ў Кнізе Быцьця былі для людзей, якія іх перажывалі, дарам Божай любасьці. Адначасна яны прадказывалі адзінага і сапраўднага Пасьрэдніка, ды прыгатаўлялі людзей усіх часаў да паўнаты ласкі і любасьці ў Ісусе Хрысьце. Гэтыя падзеі мы называем »фігурамі« або »тыпамі«. Таму сьв. Павал называе Ісуса Хрыста »другім Адамам«: »Стаўся першы чалавек, Адам, жывою душою, а апошні Адам ажыўляючым духам« (I Кар. 15, 45).

Сьв. Пётр аб'ясьняе таксама, што воды патопу і выратаваньне Ноя, былі прадказаньнем выратаваньня чалавека цераз хрост, устаноўлены Ісусам Хрыстом: »Гэтак і нас сягоньня спасае на ўзор гэтага Хрышчэньне (не абмыцьцё цела ад бруду, але абяцаньне Богу добрага сумленьня) праз ускрасеньне Ісуса Хрыста (I Пятр. 3, 21). Таму таксама сьв. Павал, аб'ясьняючы прырачэньне, дадзенае Богам Абрагаму, навучае: »Багаславенства Абрагама сталася ў Ісусе Хрысьце удзелам паганаў і каб праз веру мы атрымалі абяцанага Духа« (Гал. 3, 14). І ўсе, выратаваныя цераз хрост у Хрысьце, сталіся »патомствам Абрагамавым і паводле прырачэньня насьледнікамі« (Гал. 3, 29). Таму і Царква прыпамінае ўсьцяж у літургіі, асабліва ў абрадах сьвятых Тайнаў, гэтыя падзеі, каб мы лепш разумелі дар, прынесены Ісусам Хрыстом і каб ахватней адказывалі на адвечную любасьць Божую.

—*—

НАШ АДКАЗ БОГУ: У фігурах і падзеях Старога Запавету буду бачыць выратавальнае дзеяньне Бога і таму пастараюся лепш іх пазнаць.

ПРЫКЛАД МАЛІТВЫ: »Багаслаўлены Госпад Бог Ізраіляў, што адведаў свой народ і даў яму выратаваньне; і падняў для нас збаўчую моц у доме Давіда свайго слугі, як апавясьціў вуснамі быўшых адвеку сьвятых сваіх пракокаў, выратуэ нас ад нашых ворагаў і ад рукі ўсіх тых, што нас ненавідзяць; і ўчыніць ласку нашым бацьком і спамяне сьвяты свой запавет, прысягу, што кляўся Абрагаму, нашаму айцу, даць нам, каб без баязьні, выратаваныя з рук нашых ворагаў, мы служылі Яму ў сьвятасьці і справядлівасьці прад ім у ва ўсе дні нашага жыцьця« (Лук. I, 68-75).



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

БОЖАЕ СЛОВА: »Шмат разоў і шматлікімі спосабамі прамаўляў Бог да нашых бацькоў здаўна цераз прарокаў, а ў апошнія гэтыя дні прамовіў да нас праз свайго Сына, якога паставіў за насьледніка ўсяго, праз якога і стагодздзі стварыў« (Жыд. 1, 1-2). »І, пачаўшы ад Майсея, з усіх прарокаў выясьняў ім усё напісанае аб Ім« (Лук. 24, 27).

НАВУКА ЦАРКВЫ: »Плян выратаваньня ў Старым Запавеце быў накіраваны перадусім на тое, каб прыгатаваць, у прароцтвах прадказаць і рознымі вобразамі — як тыпамі — абазначыць прыход Хрыста Выратавальніка усіх і прыход Мэсіянскага Валадарства« (ІІ-гі Ват. Сабор, Канстытуцыя аб Божым Аб'яўленьні, 15).

## ПЫТАНЬНІ ДА XVI-ай КАТЭХЭЗЫ

27) *Кім Бог паслугоўваецца ў гісторыі выратаваньня (збаўленьня)?*

АДКАЗ: *Бог у гісторыі выратаваньня паслугоўваецца пасрэднікамі, гэта знача выбранымі людзьмі і выбраным народам.*

28) *Што мы называем »фігурамі« у Старым Запавеце?*

АДКАЗ: *»Фігурамі« ў Старым Запавеце называем выратавальныя падзеі, якія здарыліся перад прыходам Ісуса Хрыста ды прадсказывалі пайнату выратаваньня ў Ісусе Хрысьце.*

29) *Хто ёсьць адзіным сапраўдным пасрэднікам паміж Богам і людзмі?*

АДКАЗ: *Адзіным запраўдным пасьрэднікам паміж Богам і людзмі ёсьць толькі Ісус Хрыстос, Сын Божы, сапраўдны Бог і сапраўдны чалавек.*

—*—

## XVII-ая КАТЭХЭЗА

*Бог кліча выбраны народ.*

У другой Кнізе Майсея, якая завецца Выхад, знаходзім апісаныя наступныя падзеі.

Госпад сказаў да Майсея: »Я ёсьць Бог твайго бацькі, Бог Абрагама, Бог Ізаака і Бог Якуба . . . Нагледзіўся я даволі на пакуты майго народу ў Егіпце ды наслухаўся ягоных нараканьняў на прыгнятальнікаў . . . Вось я пасылаю цябе да фараона і ты вывядзі мой народ, Ізраіля, з Егіпту«.

А Майсей сказаў Богу: »Вось я пайду да сыноў Ізраіля і скажу ім: Бог нашых бацькоў паслаў мяне да вас. Але, калі яны мяне спытаюць, як Яго завуць, то што я павінен ім сказаць?

Бог адказаў Майсею: »Я ЁСЬЦЬ ТОЙ, ХТО ЁСЬЦЬ«, і прыбавіў: »Так і скажаш сынам Ізраіля: ТОЙ, ХТО ЁСЬЦЬ паслаў мяне да вас« (Вых. 3, 1-15).

—*—

Сыны Якуба, называнага такжа Ізраілям, які быў унукам Абрагама, пераехалі ў Егіпет. Там з часам разрасьліся ў цэлы народ. Егіпцяне прыгняталі ізраілітаў. Прымушалі іх працаваць на фараона, валадара Егіпту. Ізраіліты горка адчувалі сваю няволю. Тады сам Бог імі заапякаваўся.

Каля 1300 году перад нараджэньнем Хрыста паклікаў Бог Майсея, каб быў пасрэднікам паміж Ім і Ізраэлітамі. Па загаду Бога Майсей, разам са сваім братам Ааронам, зажадаў ад фараона асвабадзіць Ізраэлітаў. Фараон супрацівіўся Божым загадам. Тады Бог надзвычайным спосабам вывяў ізраэлітаў з няволі. У назначаную ноч ізраэліты выйшлі з Егіпту. Гэта ноч была паражэньнем для Егіпту, а выратаваньнем для ізраэлітаў, якія азначылі свае дамы крывёй ягняці, як загадаў Бог цераз Майсея. (Вых. 12. 7).

У дарозе ізраэліты дайшлі да Чырвонага Мора. Кніга Выхаду разказывае аб пераходзе праз мора: Майсей-Пасрэднік махануў жэзлам, які насіў заўсёды пры сабе і вада разступілася і сыны Ізраіля йшлі цераз мора па сухім дне, а вада сьцяной стаяла ў іх з правага і левага боку. (Вых. 14, 21-22).

*Выхад* гэты з егіпскае няволі й *пераход* цераз Чырвонае Мора ізраэліты назвалі Пэйсах. Мы тое самае гэбрайскае слова выгаварываем Пасха. Для жыдоў, як прынята па беларуску называць ізраэлітаў, Пасха сталася пачаткам іхняе гісторыі. Яна была таксама знакам іхняга пакліканьня на »выбраны народ« і таго, што Бог гэты народ любіць. Праз Пасху Бог пачаў урэчаісніваць свой збавіцельны намер адносна выбранага народу, а праз яго і ўсяго чалавецтва. Гэтак Бог споўніў свае прырачэньні, дадзеныя патрыярхам.

У Вялікую Суботу Царква прыпамінае кожны год Пасху Старога Запавету: — выхад з Егіпту, і лучыць яе з Пасхай Новага Запавету, г. зн. са сьмерцяй і ўваскрасеньнем Хрыста, якія вызвалілі нас з няволі грэху. Аднаўляючы прырачэньні сьвятога хросту, Царква прыпамінае наш пераход з няволі грэху да свабоды Божых дзяцей, якую дае нам хрост.

НАШ АДКАЗ БОГУ: Падзякую Богу за ласку сьвятога хросту.

ПРЫКЛАД МАЛІТВЫ: »О Божа, мы ведаем, што і ў нашы дні здараюцца твае даўнейшыя цуды. Каб ратаваць усе народы, Ты



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

робіш сяньня цераз ваду адрадженьня тое, што зрабіў Ты для аднаго народу, ратуючы яго сваей моцай з егіпскай няволі. Здзейсьні, каб усё чалавецтва ўвайшло ў сям'ю Абрагамавых сыноў і асягнула годнасьць выбранага ізраэльскага народу«. (Малітва Вялікай Суботы ў лац. абр.).

БОЖАЕ СЛОВА: Пасха наша, Хрыстос, заколены за нас (I Кар. 5, 7).

ПЫТАНЬНЕ ДА XVII-ай КАТЭХЭЗЫ:

30) *Чым ёсьць для нас Пасха ізраэльскага народа?*

АДКАЗ: *Пасха ізраэльскага народа ёсьць для нас пачаткам і прадказаньнем нашага вызваленьня і прызваньня ў Ісусе Хрысьце.*

—*—

## XVIII-ая КАТЭХЭЗА

*Бог заключае дагавор з выбраным народам.*

Сказаў Бог Майсею: »Вы бачылі, што я зрабіў з Егіпцянамі, як нёс я вас на арліных крыльлях і прыняў да сябе. Калі будзеце пільна слухацца майго голасу ды трымацца майго дагавору, вы будзеце маей асаблівай уласнасьцю з паміж усіх народаў, маей бо ёсьць уся зямля« (Вых. 19, 4-5).

—*—

Бог абяцаў цераз Майсея, што выратуе »свой народ« з егіпскае няволі і завядзе яго ў Абяцаную Зямлю. Ізраэліты »паверылі Яму ды Ягонаму слузе Майсею« (Вых. 14, 31).

На Сынаі Бог заключыў з жыдамі дагавор (запавет). Ён быў паглыбленьнем хаўрусаў Бога з патрыярхамі (Пс. 105, 8). Праз гэты дагавор Бог урачыста запэўніў, што прыйдзе збаўленьне. Іх выбраў, як народ, пасрэднікам, каб цераз іх давесьці да выратаваньня ўсе народы. Дагавор быў прыпячатаваны крывёй, прынесянай на аўтары. (Вых. 24, 8).

Бог прырок выбранаму народу сваю асаблівую апеку, аб'явіўшы яму сваё імя. (Вых. 3). А жыды прыраклі службу адзінаму Богу, Ягвэ — »Які Ёсьць«. Бачным знакам дагавору для жыдоў была арка Запавету.

Бог яшчэ няраз абнаўляў дагавор са сваім народам. Прыпомніў яго, калі жыдоўскі народ увайшоў ў Абяцаную Зямлю (Ёзуе 8, 30; 24, 24-25). Абнавіў яго за цара Давіда і цара Салямона (3 Цар. 8, 52; 8, 61).

Дагавор (запавет) паміж Богам і выбраным народам прыпаміналі жыдам пракокі. Яны аб'ясьнялі, што Бог так вядзе свой народ, як *пастыр авечак* (Із. 40, 11; Пс. 23, 1); клапаціцца пра ізраіля як агароднік пра *вінаграднік* (Із. 5, 7); любіць свой народ як каханак сваю *каханую* (Оз. 1, 3).

Адначасова у гэтых абразах-параўнаньнях пракокі прадказывалі Новы Запавет, у каторым Хрыстос будзе добрым пастырам, садаўніком і каханкам, а Ягоная Царква будзе аўчарнікам, вінаграднікам і каханкай. У гэтым Новым Запавеце любоў зьвяжа Бога і Божы народ: »Заключу з імі вечны дагавор, і не адступлю ад іх робячы ім дабро; і страх перада мною ўлажу ў іхнія сэрцы, каб мяне не пакінулі« (Ер. 32, 40).

Дагавор або Запавет уцьверджаны на Сынаі завецца Старым Запаветам. Наш пасрэднік Ісус Хрыстос заключыў Новы Дагавор або Запавет, які прыпячатаў сваей крывёй (I Кар. 11, 25). Ён ужо абымае не адзін толькі народ, але ўсе народы, ўсіх людзей.

Цераз хрост мы пакліканы прыняць удзел у Новым Запавеце. Мы цяпер »новы Божы народ«, новая супольнасьць у Ісусе Хрысьце.

—*—

НАШ АДКАЗ: Хачу быць верным Запавету, у якім я прымаю удзел цераз сьвяты хрост.

ПРЫКЛАД МАЛІТВЫ: Божа, што пасьля заканчэньня Старога Запавету, заключыў Новы цераз адзінароднага твайго Сына, просім цябе, дай нам, каб мы — як новы Божы народ — злучаныя ў любві, што-раз то лепш цябе пазнавалі і што-раз лепш табе служылі.

БОЖАЕ СЛОВА: »Майсей узяў кроў і пакрапіў ею народ, кажучы: вось кроў Запавету (Дагавору), які Ягвэ заключыў з вамі« (Вых. 24, 8). »Госпад маім пастырам: ні ў чым ня буду мець нястачы!« (Пс. 23, 1). »Вінаграднікам Ягвы Саваофа ёсьць дом Ізраэлявы« (Із. 5, 7). »Я пасадзіў цябе як адборную вінаградную лазу, найлепшае каліва. Якжа ты мог перамяніцца ў дзічку, выродную вінаградную лазу?« (Ер. 2, 21).

НАВУКА ЦАРКВЫ: »І выбраў Бог сабе на народ ізраэлітаў, з якім заключыў Запавет і які паступова вучыў, аб'яўляючы сябе і намеры сваей волі ў яго гісторыі, ды робячы яго сьвятым дзеля самога сябе. Усё гэта аднак здарылася як прыгатаваньне і як тып таго Новага і дасканалага Запавету, які меў заключыцца у Хрысьце, як і больш поўнага аб'яўленьня, якое мела перадаць само Божае Слова, якое сталася целам«. »Вось надыходзяць дні, кажа Госпад, і я заключу з ізраэльскім домам Новы Запавет . . . Палажу мой закон у іхніх унутранасьцях і на іхнім сэрцу напішу яго, і буду ім Богам, а яны будуць мне народам . . . Бо ўсе пазнаюць мяне ад малога да найвялікшага, кажа Госпад« (Ер. 31, 31-34). (II-гі Ват. Сабор, Канстытуцыя аб Царкве, 9).



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

ПЫТАНЬНІ ДА XVIII-ай КАТЭХЭЗЫ:

31) *Як завецца Запавет заключаны на Сынаі?*

АДКАЗ: *Запавет (Дагавор) заключаны на Сынаі завецца Старым Запаветам або Старым Законам.*

32) *Якое значэньне ў гісторыі выратаваньня (выбаўленьня) мае Запавет заключаны на Сынаі?*

АДКАЗ: *Запавет заключаны на Сынаі зрабіў выбраны народ пасрэднікам і прадказаў Новы Запавет у Ісусе Хрысьце.*

*Увага:* Гісторыя Сынайскага Запавету знаходзіцца запісаная ў Бібліі ў Кнізе Выхаду, разьдзел 19. Радзім самім прачытаць яго.

## XIX-ая КАТЭХЭЗА

*Царскае сьвятарства выбранага народу.*

Сказаў Бог Майсею: »Калі будзеце пільна слухаць майго голасу і трымацца майго Запавету, будзеце маей асаблівай уласнасьцю з паміж усіх народаў, бо да мяне належыць уся зямля. Але вы будзеце мне царствам сьвятароў і святым народам« (Вых. 19, 5-6).

Бог выбраў жыдоўскі народ і зьвязаў яго з сабою Дагаворам (Запаветам). Выбраны народ — »народ, які належыць да Бога« (Паўт. 7, 6), Бог зрабіў яго царствам сьвятароў і сьвятым народам, даручаючы яму сьвятарскае заданьне.

Толькі жыдоўскаму народу Бог аб'явіў сваё права і свае законы. »Якіж вялікі народ мае уставы і загады так справядлівыя, як увесь гэты закон, які я вам даю сяньня« (Паўт. 4, 8). З Божае волі гэты народ павінен быў сьцерагчы Божае аб'яўленьне, ды быць ягоным сьведкам перад іншымі народамі. »Вы мае сьведкі і мае слугі« — казаў Бог жыдам цераз прарока Ізаяша. »Народ гэты, які я Сабе стварыў, будзе апавяшчаць маю славу« (Із. 43, 10-21). Бог хацеў, каб жыдоўскі народ апавяшчаў аб вялікіх Божых падзеях, якія здарыліся ў ягонай гісторыі і каб такім спосабам паказваў іншым народам шлях да адзінага жывога Бога.

Ізраэліты — народ сьвятароў, павінны былі аддаваць чэсьць сапраўднаму Богу. Калі фараон не выпускаў жыдоў з Егіпту, Майсей ад імя Бога сказаў яму: »Вось што кажа Ягвэ: маім старшым сынам ёсьць Ізраэль. Кажу табе: пазволь майму сыну выйсьці, каб ён мне *служыў*« (Вых. 4, 22-23). Гэты загад ён паўтараў некалькі разоў: »Пазволь выйсьці майму народу і наладзіць урачыстасьць у маю чэсьць на пустыні« (Вых. 5, 1). Бог жадаў, каб жыдоўскі народ яму служыў і прынасіў жэртвы.

Распаўсюджваньне Божай славы і прынашэньне жэртваў сапраўднаму Богу — гэта сьвятыя дзеяньні. Жыдоўскі народ, выдзелены самым Богам з пасярод іншых народаў і выбраны на ягоную вылучна ўласнасьць, быў сьвятым. Дзеля таго ён павінен быў вясьці сьвятое жыцьцё. »Сьвятымі будзьце — казаў да іх Бог — бо я ёсьць сьвяты, Ягвэ, Бог ваш« (Левітаў 19, 2). »Дык асьвяціцеся і будзьце сьвятымі, бо я ёсьць сьвяты, я Ягвэ, Бог ваш ... аддзяліў вас ад іншых народаў, каб вы былі маімі« (Левіт. 20, 7-26).

Даючы Ізраэлю гэтак вялікае прызваньне, Бог хацеў, каб гэты народ прыняў яго дабравольна. Народ адказаў: »Зробім усё, што Ягвэ загадаў« (Вых. 19, 8).

—*—

Вызначаючы Ізраэлю сьвятарскі абавязак, Бог хацеў, каб выбраны народ стаўся кораням, да якога можна было-б прышчапіць іншыя народы, каб іх ратаваць. А сьвятарства жыдоўскага народу было тыпам усёагульнага сьвятарства новага Божага народу (І Пятра 2, 1-10). Пачатак новаму Божаму народу, якім ёсьць мы — Царква, даў Найвышэйшы Сьвятар Ісус Хрыстос. У Ім новы Божы народ дасканалей чымсь даўней народ жыдоўскі сьцеражэ аб'яўленьне, распаўсюджвае Божую славу, прыносіць найсьвяцейшую жэртву — Эўхарыстыю.

Гэты новы Божы народ, сьвяты ў сваім сьвятарскім царстве, павінен весьці сьвяцейшае жыцьцё.

НАШ АДКАЗ БОГУ: Належу да сьвятарскага Божага народу. Хачу выпаўняць звязаныя з гэтым абавязкі.

ПРЫКЛАД МАЛІТВЫ: Госпадзі, прыймі нас, што прыйходзім да цябе ў пакоры і з разкаянным сэрцам, а нашая ахвяра няхай сяньня будзе так споўненай перад табою, каб яна спадабалася табе, Госпадзе Божа, і была табой прынята.

БОЖАЕ СЛОВА: »Вы такжа як жывыя каменьні будзеце паложаныя ў пабудову, як духовая сьвятыня, як сьвятое сьвятарства, каб прыносіць духоўныя ахвяры, прыемныя Богу цераз Ісуса Хрыста. Бо гэтак ёсьць у Пісаньні ... вы ёсьць выбранае племя, царскае сьвятарства, сьвяты народ, людзі набытыя, каб аб'вяшчаць даброты паклікаўшага вас з цемры ў цудоўнае сваё сьвятло« (Пятра 2, 5-10).

»Таму, хто нас любіць і церах сваю кроў увольніў нас ад нашых грахоў, ды зрабіў нас царамі і сьвятарамі Богу Айцу свайму, слава і дзяржава на вечныя стагодзьдзі. Аман«. (Адкр. 1, 5-6).



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

ПЫТАНЬНІ ДА XIX-ай КАТЭХЭЗЫ:

33) *Чым зрабіў Бог выбраны народ?*
АДКАЗ: *Бог зрабіў выбраны народ царствам сьвятароў і сьвятым народам.*

34) *Хто ёсьць сяньня царствам сьвятароў?*
АДКАЗ: *Сяньня царствам сьвятароў ёсьць новы Божы народ — ЦАРКВА.*

—*—

## XX-я КАТЭХЭЗА

*Бог дае закон Запавету.*

Сказаў Госпад: Я ёсьць Ягвэ, твой Бог, які цябе вывяў з егіпскае зямлі, з дому няволі.

Ня мей іншых багоў апрача Мяне.
Ня ўжывай Божага імені без патрэбы.
Помні сьвяты дзень каб сьвяткаваць.
Паважай свайго бацьку і сваю матку.
Не забівай.
Не чужалож.
Не крадзі.
Ня сьведч фальшыва на свайго бліжняга.
Не пажадай чужой жонкі.
Не пажадай нічога чужога.
(Кн. Вых. 20).

—*—

Стварaючы чалавека Бог выпісаў у ягонай душы закон, які трэба выпаўняць, каб чалавек быў чалавекам (Рым. 2, 12-16). Ён завецца *прыродным законам.* Першародны грэх настолькі папсаваў чалавечую прыроду, што чалавек часта не зьвяртае належнае ўвагі на гэты закон. Тады ягонае жыцьцё становіцца нягодным чалавека. І так чалавек забываўся аб сапраўдным Богу, а кланяўся кумірам, якіх сам сабе выдумаў. Бліжнім сваім не хацеў даваць таго, што ім належыцца. Жыў ня розумам, а нахіламі ды пачуцьцямі, як неразумная жывёла.

Каб прывесьці людзей да супольнасьці з Сабой, Бог паслужыўся жыдоўскім народам. Заключыў з ім Запавет (Дагавор) і даў яму *пісаны закон.* Гэты закон у сутнасьці быў толькі пацьверджаньнем прыроднага закону і быў аб'вешчаны ў форме дзесяці загадаў, якія прынята называць Дэкалёгам. Дапаўнялі яго законы, абымаўшыя абавязкі адносна Бога і бліжняга.

Закон Запавету даў Бог ня толькі для жыдоў, але і для ўсіх людзей. Жыды забавязаліся выпаўняць закон, каб жывучы паводле яго быць прыкладам для іншых людзей. Цераз жыдоў Бог узгадоўваў усіх людзей у пастутапаньні *годным чалавека.*

—*—

Закон Запавету прыгатаўляў да больш дасканалага закону. Аб гэтым гаварылі прарокі. Ізаяш пісаў аб »гарэ Гасподняга Дому«, да якой накіруюць свае крокі ўсе народы і навучацца хадзіць »па шляхах і сьцежках« Божых (Із. 2, 2-3). Таксама прадказывае, што прыйдзе калісь Слуга Божы, які прынясе абавязкава Закон (Із. 42, 3).

Прарок Эзэхіель у »Божым захапленьні« (Эз. 40, 2) апісывае новае Царства, якое калісь заіснуе на зямлі. Аб больш дасканалым законе, які будзе ня столькі вонкавым, сколькі ўнатраным, піша Ерэмія: »Гэтакі будзе Запавет, які заключу з Домам Ізраэля, калі надыйдуць тыя дні. Гаворыць Ягвэ: глыбока пасаджу ў іх мой закон, выпішу яго ім на сэрцах. І буду ім Богам, а яны будуць маім народам« (Ер. 31, 33).

Прароцтвы гэтыя споўніліся ў Ісусе Хрысце, ад Якога пачаўся Новы Закон. Стары Закон Хрыстос не адкінуў, але пацьвердзіў і ўдасканаліў. Ён-жа сам сказаў: »Ня думайце, што я прыйшоў, каб скасаваць Закон або прарокаў; я прыйшоў не скасаваць, а выпаўніць« (Мат. 5, 17).

Калі Царква прылучае чалавека да Божага народу Новага Запавету, яна пытаецца і дае наступныя адказы перад хростам:

— Чаго жадаеш ад Божае Царквы?
— Веры.
— А што дасьць табе вера?
— Вечнае жыцьцё.
— Дык, калі хочаш атрымаць вечнае жыцьцё, выпаўняй загады.

НАШ АДКАЗ БОГУ: Буду заўсёды выпаўняць Божы Закон.

ПРЫКЛАД МАЛІТВЫ: »Усім сваім сэрцам шукаю я Цябе; ня дай мне адхіліцца ад загадаў Тваіх! У сэрцы маім хаваю я слова Тваё, каб не зграшыць прад Табою. Багаслаўлю Цябе, Госпадзе, навучы мяне Тваіх уставаў!« (Пс. 119, 10-12).

БОЖАЕ СЛОВА: »Бойся Бога, ды выпаўняй Ягоныя загады, бо ў гэтым цэлы чалавек« (Экл. 12, 13). Ісус сказаў юнаку: »Калі-ж хочаш увайсьці ў жыцьцё, выпаўняй прыказаньні. Той запытаў: якія? Ісус-жа сказаў: не забівай, не чужалож, не крадзі, ня сьведчы ілжыва; шануй бацьку й матку і любі бліжняга твайго, як самога сябе« (Мат. 19, 18-19).

ПЫТАНЬНІ ДА XX-ай КАТЭХЭЗЫ:

35) *Калі Бог даў Дзесяць Загадаў (Прыказаньняў)?*

АДКАЗ: *Бог даў Дзесяць Загадаў, калі на Сынаі заключыў з жыдамі Запавет (Дагавор).*

36) *Што пацьвярджаюць Божыя Загады?*



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

АДКАЗ: *Божыя Загади пацьвярджаюць закон прыроды.*

37) *Каго абавязваюць Божыя Загады?*

АДКАЗ: *Божыя Загады абавязваюць усіх людзей усіх часаў.*

—*—

*Увага:* Аўтар гэтых Катэхэзаў сьв. п. а. др. Т. Падзява памёр год таму назад, 2 кастр. 1975 г. (Гл.: Божым Шляхам, Нр. 3-4 (145-146), 1975, с. 8-10). За яго жыцьця было надрукавана ў нашым часапісе ўсяго толькі 15 Катэхэзаў, а ўсіх ён апрацаваў 135. Сталася-б вялікая шкода, каб гэта арыгінальная, глыбока перадуманая праца, адзіная ў беларускай рэлігійнай літаратуры, асталася толькі ў рукапісе. Таму будзем прадоўжываць яе друк, не зьмяняючы парадку і стылю аўтара.

—*—

# ГУДАГАЙСКАЯ БОЖАЯ МАЦІ СЛАЎНАЯ ДЗЕЛЯ ЦУДАЎ

Гудагай некалі быў собскасьцю ведамай у Вялікім Княстве Літоўскім сям'і Войнаў, з якіх Язэп і ягоная жонка Анна былі фундатарамі ў 1764 г. кляштару Кармэлітаў і касьцёла імя Божай Маці Адведзінаў. У гэтым касьцеле знаходзіўся слаўны з цудаў абраз. У 1866 г. у час мураўёўскага прасьледу касьцёл быў зачынены. У 1905 г. Гудагайскі касьцёл з філіяльнага стаўся парахвіяльным, але быў ён драўляны, убогі і вымагаў рэмонтаў. Перад апошняй сусьветнай вайной гудогайская парахвія налічывала каля 6.000 вернікаў. Гудагай сяньня — пасёлак і чыгуначная станцыя ў Астравецкім раёне, Гродзенскай вобласьці. Пра касьцёл і цудоўны абраз ня маем вестак.

Н. Роўба, аўтар кніжыцы ў польскай мове: »Праваднік па Літве і Беларусі« (Вільня, 1910, с. 69) пра цудоўны абраз Гудагайскай Божай Маці пісаў: »У кожнае сьвята Божай Маці адбываецца ў Гудогайскім касьцеле вельмі ўрачысты фэст, які да быццам памерлай і ціхой звычайна мясцовасьці прыцягвае сотні людзей з навакольных вёсак«.



**Цудамі праслаўлены абраз Маці Божай у Гудагаях**

# МАТКА БОСКАЯ Ў ГУДАГАЯХ

**О, дабратлівы ў сваіх ласках Божа,**
**Хто з нас належна апісаці можа?**
**Цуды што і дзеюцца ў народзе,**
**Хто ў ГАДАГАІ зь вераю прыходзе**

**Каго хвароба мучыць і сьціскае —**
**Аж сьмерць прадчасна вось-вось [абыймае, —**
**Той ў Гудагаях знайдзе цуд-апеку,**
**Што Матка Боска сьведчыць чалавеку!**

**Ў людзкіх няшчасьцях плывуць ласкі зь [неба —**
**Марыя шчодра дзеліць, каму трэра:**
**Мы Богу шчыра падзяку прыносім —**
**Зь верай, надзеяй яшчэ болей просім!**

**Найбольш аб згоду паўсюдну на сьвеце**
**Просім і молім мы — бедныя дзеці,**
**Ад голаду, войнаў, варожых напасьцяў**
**Ратуй нас, Божа, ад усіх няшчасьцяў!**

**О, Маці Божа, што у Гудагаі,**
**Здароўя просім, плёну ураджаю,**
**Цябе мы клічам прад Божым парогам —**
**Ты заступайся за намі прад Богам!**

Лёндан.
21. IX. 1976.

а. Я. Г.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

А. Аляксандар НАДСОН

# ПЯЦЬ ГАДОЎ БІБЛІЯТЭКІ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ

Беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны ў Лёндане была адчынена 15 мая 1971 г. Ад таго часу кіраўніцтва бібліятэкі мела магчымасьць адчуць неаслабную прыхільнасьць і падтрымку для яе з боку беларусаў ва ўсім сьвеце, а таксама зацікаўленьне яе ростам і дзейнасьцю. Мэтай гэтага артыкулу ёсьць задаволіць у меру магчымасьці гэтае зацікаўленьне і даць больш абшырныя весткі аб разьвіцьці і працы бібліятэкі за пяць гадоў яе існаваньня.

Кніжныя фонды бібліятэкі, якія першапачаткова налічвалі каля 10.000 кніг, усьцяж папаўняюцца новымі набыткамі. У сярэднім бібліятэка атрымлівае 300-400 новых назваў кніг у год, сярод якіх ёсьць даволі шмат старых і рэдкіх выданьняў.

Самым багатым у бібліятэцы з'яўляецца аддзел беларускай літаратуры, які налічвае каля 3.000 кніг. Бібліятэка мае амаль усе выданьні твораў беларускіх пісьменьнікаў, якія выйшлі пасьля 1960 г. (у тым ліку сэрыі »Першая кніга паэта«, »Бібліятэка беларускай паэзіі«, »Бібліятэка беларускай прозы« і інш.), а таксама шмат ранейшых. На асаблівую ўвагу заслугоўваюць першыя выданьні твораў клясыкаў беларускай літаратуры, як »Жалейка« (СПб. 1908), »Сон на кургане« (СПб. 1912), »Шляхам жыцьця« (СПб. 1913) і »Раскіданае гняздо« (Вільня 1919) Янкі Купалы; »Батрак« (СПб. 1913), »Родныя з'явы« (Вільня 1914), »У Палескай глушы« (Вільня 1923), »Сымон музыка« (Мн. 1925), »На прасторах жыцьця« (Мн. 1926) Якуба Коласа і »Вянок« (Вільня 1913) Максіма Багдановіча. Ёсьць таксама »Рунь« (Вільня 1914) і »Дзьве душы« (Вільня 1919) Максіма Гарэцкага, »Мая ліра« Казімера Сваяка і першыя выданьні твораў Альбэрта Паўловіча, Францішка Аляхновіча, Алеся Дудара, Уладзімера Хадыкі, Міхася Машары, Максіма Танка і іншых.

Аддзел мовы, апрача ўсіх працаў беларускіх мовазнаўцаў, якія выйшлі пасьля 1955 г., мае многа рэдкіх выданьняў, сярод іх »Беларуская граматыка для школ« Б. Тарашкевіча (Вільня, выданьні 1921 і 1929 гг.), »Пачатковая граматыка« (Мн. 1926) і »Беларускі правапіс« (Мн. 1928) Язэпа Лёсіка, »Беларускі правапіс« Р. Астроўскага (Вільня 1930) і інш. Ёсьць таксама камплет »Беларусаў« Карскага (часткі 1 і 2 трэцяга тома на мікрафільме), »Опыт диалектологической карты русского языка в Европе« Н. Дурново (Масква 1915) і »Северско-белорусский говор« П. Растаргуева (Ленінград 1927). Асабліва вартаснай з'яўляецца калекцыя беларускіх слоўнікаў, многія з якіх ня лёгка знайсьці ў іншых заходніх бібліятэках, як напр. »Словарь белорусского наречия« І. Насовіча (СПб. 1870), »Смоленский областной словарь« В. Дабравольскага (Смаленск 1914), »Невялічкі беларуска-маскоўскі слоўнік« М. Гарэцкага (Вільня 1919), »Падручны расійска-крыўскі (беларускі) слоўнік« В. Ластоўскага (Коўна 1924), »Беларуска-расійскі слоўнік« М. Байкова і С. Некрашэвіча (Мн. 1926), »Віцебскі краёвы слоўнік« М. Касьпяровіча (Віцебск 1927), »Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны« М. Шатэрніка (Мн. 1929), »Падручны беларуска-польскі слоўнік« Б. Друцкага-Падбярэскага (Вільня 1929), »Руска-беларускі слоўнік« А. Александровіча (Мн. 1937), а таксама шэсьць выпускаў сэрыі »Беларуская навуковая тэрміналёгія«, якую выдаваў Інстытут Беларускай Культуры (пасьля Беларуская Акадэмія Навук) у 20-тыя і пачатку 30-тых гадоў. Бібліятэка мае ўсе слоўнікі, якія выйшлі пасьля апошняй вайны.

Бібліятэцы пашчасьціла здабыць цэлы рад рэдкіх этнаграфічных зборнікаў, як »Сборник памятников народного творчества в Северо-Западном крае« П. Гільтэбрандта (Вільня 1867), »Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян в Северо-Западном крае« М. Дзьмітрыева (Вільня 1869), »Белорусские песни« П. Бяссонава (Масква 1871), »Сборник белорусских пословиц« І. Насовіча СПб. 1874), »Белорусские народные песни« (СПб. 1874) і »Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края« (камплет, СПб. 1887-1902) П. Шэйна, »Гомельские народные песни« З. Радчанка (СПб. 1888), »Пинчуки« Д. Булгакоўскага (СПб. 1891), »Смоленский этнографический сборник« В. Дабравольскага (камплет, СПб. 1891 — Масква 1903), »Простонародные приметы и поверия ... в Витебской Белоруссии« (Віцебск 1897) і »Нечистики« (Вільня 1907) К. Нікіфароўскага, »Сказки и расказы белорусов-полешуков« А. Сержпутоўскага (СПб. 1911), »Матар'ялы да вывучэньня фольклёру і мовы Віцебшчыны« А. Шлюбскага (абедзьве часткі, Мн. 1927-28), "Polesie wschodnie" К. Машынскага (Варшава 1928) і інш.

Гістарычны аддзел, самы вялікі пасьля



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

літаратурнага, узбагаціўся за апошнія гады многімі цікавымі кнігамі, сярод якіх ёсьць »Кароткая гісторыя Беларусі« В. Ластоўскага (Вільня 1910), »Кароткі нарыс гісторыі Беларусі« (Вільня 1921) і »Гісторыя Беларусі ў XIX і пачатку XX сталецьця« (Мн. 1926) У. Ігнатоўскага, »Беларускі рух ад 1917 да 1920 году« Я. Варонкі (Коўна 1920) і »Да гісторыі беларускага палітычнага вызваленьня« А. Станкевіча (Вільня 1934). Удалося таксама дастаць шмат ранейшых выданьняў на расейскай і польскай мовах, як напр. »Исторические сведения о примечательнейших местах в Белоруссии« М. Бэз-Карніловіча (СПб. 1853), »Обозрение истории Белоруссии« О. Турчыновіча (СПб. 1857), »Дневник Люблинского сейма« (СПб. 1869), »Чтения по истории Западной России« М. Каяловіча (СПб. 1894), »Труды IX Ареологического съезда в Вільне в 1893 г.« (Масква 1895-97), »Сеймы Литовско-Русского государства« Н. Максімейкі (Харкаў 1902), »Рада Великого княжества Литовского« І. Маліноўскага (Томск, 1903-1912), »Литовско-русский повет и его сеймик« І. Лаппо (Юр'еў 1911), "Ostatnie lata Witolda" А. Прахаскі (Варшава 1882), "Witold, Wielki Książę Litewski" І. Каханоўскага (Львоў 1900), "Polska i Litwa na przełomie Wieków średnich" Ф. Папээ (Кракаў 1904), "Elekcya Zygmunta I" Л. Фінкеля (Кракаў 1910), "Zygmunt August, Wielki książę Litwy" Л. Калянкоўскага (Львоў 1913). Для зразуменьня беларуска-польскіх адносінаў пасьля Першай сусьветнай вайны вялікую цікавасьць маюць кнігі "Żywioł polski na ziemiach litewskich" М. Сьвяхоўскага (Закапанэ 1917), "Państwo polskie a kwestya białoruska" Шчэснага Браноўскага (Варшава 1919), "Sprawa narodowościowa na Kresach wschodnich" К. Сракоўскага (Кракаў 1924), "Sprawa białoruska" С. Элскага (Варшава 1931) і асабліва выданьні на беларускай мове »Адраджэньне Беларусі і Польшча« А. Цьвікевіча (Бэрлін 1921), »Успаміны аб польскай акупацыі Горадзеншчыны ў 1919-1921 гг.« І. Антонава (1921), і »Працэс 45-ці беларусаў у Беластоку« (Выд. Бел. Пасольскага клюбу, Вільня 1923). У галіне гісторыі Царквы бібліятэка набыла »Историческое известие о возникшей в Польше Унии« Н. Бантыш-Каменскага (Масва 1805), »Записки Иосифа, Митрополита Литовского (усе тры тамы, СПб. 1883), »История Минской архиепископии« С. Рункевича (СПб. 1893), »Последнее воссоединение с Православной церковью униатов Белорусской опархии« Г. Шавельскага (СПб. 1910), "Język rosyjski w katolickim rytuale i dodatkowem nabożenstwie" І. Пшыбышэўскага (Львоў 1893), "Sprawa dysydencka 1764-1772" Ц. Лубенскай (Кракаў 1911), "Książe Konstanty Ostrogski a Unia Brzeska 1596 г." К. Лявіцкага (Львоў 1933), "Zygmunt Stary a Kościół Prawosławny" А. Лапінскага (Варшава 1937), "Kościół Prawosławny w Polsce w epoce Sejmu Wielkiego" Э. Саковіча (Варшава 1935), "O autokiefalii prawosławnej w Polsce" Е. Лангрода (Варшава 1931). Сярод зборнікаў гістарычных дакумантаў варта успомніць нядаўна набыты »Белорусский архив древних грамот« І. Грыгаровіча (Масква 1824). Ёсьць таксама »Акты Западной России« (СПб. 1846-53), усе чатыры тамы »Літоўскай мэтрыкі«, выданыя ў сэрыі »Русская историческая библиотека« (СПб. 1905-1914), пасобныя тамы сэрыі »Археографический сборник документов, относящихся к истории Северо-Западной Руси« (Вільня 1867-1904) і інш.

Бібліятэка, якая носіць імя Францішка Скарыны, асабліва зацікаўлена ў зьбіраньні ўсіх матарыялаў, якія датычаць жыцьця і дзейнасьці беларускага першадрукара і гісторыі беларускага друку наагул. »Скарыніяна« ў бібліятэцы прадстаўлена вельмі багата, пачынаючы ад такіх кніг, як »Доктор Франциск Скорина« П. Уладзімірава (СПб. 1888) і »Чатырохсотлецьце беларускага друку« (Мн. 1926) і канчаючы апошнімі працамі ў гэтай галіне, як напр. »Францыск Скарына і яго час« Л. Царанкова (Мн. 1975). Апошнім часам бібліятэка атрымала кнігу кс. А. Станкевіча »Доктар Францішак Скарына — першы друкар беларускі« (Вільня 1925).

Сярод бібліяграфічных прац трэба ўспомніць »Описание славяно-русских книг« І. Каратаева (СПб. 1883), »Описание старопечатных и церковнославянских книг« А. Радоскага (СПб. 1891) і »Гісторыя беларускай (крыўскай) кнігі« В. Ластоўскага (Коўна 1926). Апошнім дадаткам да гэтай групы з'яўляецца »Каталог белорусских изданий Кирилловского шрифта XVI-XVII вв.« В. Лук'яненка (2 часткі, Ленінград 1973-75). Ёсьць таксама апісаньні спэцыяльных калекцыяў, як напр. »Описание рукописей Виленской публичной библиотеки« Ф. Дабранскага (Вільня 1882) і »Описание книг и актов Литовской метрики« С. Пташыцкага (СПб. 1887).

Гордасьцю бібліятэкі з'яўляецца невялікая калекцыя старадрукаў, якая была створаная на працягу апошніх пяці гадоў. Сёньня бібліятэка мае фрагмэнт »Книги первыи царьств« Скарыны (Прага 1518), »Статут Великого Князьства Литовского« (Вільня, 1594-95), »Новый завет« (Вільня 1623), »Новый завет (Куцеіна 1652), »Леитоургикон, се ест служебник« (Супрасьль 1695), »Собрание припадков« (Супрасьль 1722), »Лексикон« (Супрасьль 1722), »Служебник« (Вільня 1773), »Альфа и омега« (Вільня 1786) і »Зла-



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

тоуст« (Вільня 1798). Да гэтай лісты можна дадаць старадрукі маскоўскія і ўкраінскія, як »Служебник« (Масква 1602), »Полуустав« (Кіеў 1643), »Евангелие« (Львоў 1644), »Служебник« (Кіеў 1653), »Литургиарион« (Львоў 1691), »Молитвословец« (Кіеў 1721), »Акафисты с каноны« (Кіеў 1754), а таксама кнігі на іншых мовах, якія маюць дачыненьне да Беларусі, менавіта "Introductio in Chaldaicam Linguam" Тэзео Амбпрозіё Альбонэзі (Павія 1539), "Sarmatiae Europeae Descriptio" А. Гваніні (Шпаер 1581), "Trybunał, dany obywatelom W. X. Litewskiego" (Вільня 1616), "Statut Wielkiego Xięstwa Litewskiego" (Вільня 1619), "Historiae Lituanae" А.Каяловіча (абедзьве часткі, Гданск 1650 — Антвэрпэн 1669), "Inwentarz Konstytucyy koronnychronnych i W. X. Litewskiego" (Лайпцыг 1733) і "Historie der Polnischen Wahl-Tage" М. дэ ля Бізард'ер (Штакгольм 1733).

Бібліятэка атрымлівае стала 40 беларускіх газэт і часопісаў. За апошнія гады калекцыя пэрыёдыкаў узбагацілася камплетамі ці паасобнымі нумарамі такіх старых выданьняў, як »Варта« (адзіны нумар, Мн. 1918), »Вольны сьцяг« (камплет, Мн. 1920-22), »Працы БДУ« (№ 4-12, Мн. 1923-26), »Замежная Беларусь« (№ 1, Прага 1926), »Росквіт« (Мн., 1927-28), »Запіскі аддзелу філёлёгіі« (кн. 1, Мн. 1928), »Сялянская ніва« (Вільня 1926), »Крывіч« (Коўна, паасобныя нумары за 1923-26), »Наш край« (Мн., паасобныя нумары за 1928), »Ударнік« (№ 2, Мн. 1932), »Гадавік Беларускага навуковага таварыства« (Вільня 1933), »Полымя рэвалюцыі« (Мн., неакамплетныя гадавікі за 1934-36), »Беларускі работнік« (Бэрлін 1944).

Калекцыя геаграфічных картаў налічвае больш за сотню назваў, у тым ліку сорак з XVI-XVIII стагоддзяў. У рукапісных фондах бібліятэкі перахоўваюцца матарыялы, пачынаючы ад дакументаў з XVI стагоддзя і канчаючы аўтографамі беларускіх пісьменьнікаў і дзеячоў. Каб апісаць, аднак, усё гэта, а таксама музэйную калекцыю, патрэбен асобны артыкул.

За пяць гадоў свайго існаваньня бібліятэка мела больш за 400 наведвальнікаў з Англіі, Францыі, Італіі, Нямеччыны, Бэльгіі, Савецкага Саюза, Польшчы, Злучаных Штатаў Амэрыкі, Канады, Аўстраліі, Новазэляндыі, Ізраіля і іншых краінаў. Ня ўсе наведвальнікі з'яўляюцца чытачамі, некаторыя нават трапляюць у бібліятэку прыпадкова, многія аднак прыходзяць туды ў пошуках патрэбных ім матарыялаў і інфармацыі для навуковай працы. Многім іншым, якія ня маюць змогі прыехаць у Лёндан, бібліятэка памагае пісьмовай інфармацыяй і матарыяламі ў форме ксэракопіяў і мікрафільмаў. Бібліятэка з'яўляецца таксама месцам навуковых зборак, лекцый і канфэрэнцыяў, як напр. курсы беларусазнаўства Англа-беларускага таварыства, ці канфэрэнцыя прысьвячаная вывучэньню Сярэдніх вякоў Усходняй Эўропы, якая адбылася вясною 1976 г. і на якой было больш за сорак удзельнікаў з розных унівэрсытэтаў Вялікай Брытаніі.

Такім чынам сёньня Бібліятэка імя Францішка Скарыны з'яўляецца важным цэнтрам навуковай інфармацыі аб Беларусі ў заходнім сьвеце і яе кніжныя фонды ёсьць даступныя для ўсіх тых, хто сур'ёзна цікавіцца беларускім пытаньнем. Гэта адна з найважнейшых мэтаў бібліятэкі. Другой мэтай, ня менш важнай за папярэднюю, ёсьць зьбіраньне і захаваньне ад зьнішчэньня ўсіх беларускіх друкаваных і рукапісных матарыялаў, асабліва старых і рэдкіх. Безумоўна, кніга ў прыватнай калекцыі кнігалюба можа перахавацца ня горш, чым у бібліятэцы. Анак рэдкае выданьне ў прыватных руках ведама толькі ўласьніку, у тым часе як у бібліятэцы яно стаецца даступным і карысным для многіх і такім чынам служыць для пашырэньня ведаў аб Беларусі. Гэта зразумелі ўжо многія беларусы, якія падарылі бібліятэцы свае кнігі і нават цэлыя калекцыі. Больш таго, некаторыя з найбольш вартасных набыткаў бібліятэкі за апошнія гады з'яўляюцца падаркамі беларусаў. Успамінаючы тут з удзячнасьцю гэтыя годныя насьледваньня ўчынкі, хочацца выказаць спадзяваньне, што іншыя возьмуць з іх прыклад.

Утрыманьне і разбудова бібліятэкі зьвязаны з вялікімі коштамі. Так, напрыклад, да канца 1975 г. толькі на куплю і кансэрвацыю кніг і мікрафільмаў было выдана 14860 ангельскіх фунтаў (больш за 35000 амэрыканскіх даляраў паводле курсу, які існаваў у тым часе). Калі дадаць да гэтага кошты ўтрыманьня бібліятэчнага будынку (рамонт, аграваньне, асьвятленьне, тэлефон), падаткі і т. д., дык разам зьбіраецца вельмі паважная сума. Бібліятэка, якая з'яўляецца незалежнай навуковай установай, не атрымлівае дапамогі з ніякіх дзяржаўных ці іншых афіцыяльных фондаў і галоўнай крыніцай яе даходаў з'яўляюцца прыватныя ахвяры. Да гэтага часу ахвяры беларусаў з усяго сьвету складалі вялікую частку даходаў бібліятэкі і без іх было б вельмі цяжка яе ўтрымаць, ня кажучы ўжо аб далейшым разьвіцьці. Трэба спадзявацца, што з часам усё больш і больш беларусаў зразумеюць важнасьць бібліятэкі і той працы, якую яна робіць, і захочуць далучыцца да ліку яе дабрачынцаў ●



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# З БЕЛАРУСКАГО ЖЫЦЬЦЯ

## ЮБІЛЕЙ БІСКУПА БАЛЕСЛАВА СЛОСКАНСА

8 траўня ў манастыры Айцоў Бэнэдыктынаў у Лювэне, дзе ад 1944 году прабывае біскуп Балеслаў Слосканс, Апостальскі Адміністратар Магілёўскі і Менскі, былі наладжаныя ў ягоную чэсьць сьв. Літургія і прыняцьце з нагоды 50-ці гадоў ад высьвяцінаў яго ў сан біскупа.



**Я. Д. Біскуп Б. Слосканс Апост. Адміністратар Магілёўскі і Менскі**

У абставінах незвычайна цяжкіх і неспрыяючых для Каталіцкай Царквы дня 10 траўня 1926 г. у касьцеле сьв. Людовіка ў Маскве, пры зачыненых дзьвярах, архібіскуп Міхал Д'Эрбіні высьвяціў 33-летняга сьвятара Магілеўскай Мітраполіі Балеслава Слосканса на Біскупа. Ад таго часу ён стаўся пастырам у функцыі Апостальскага Адміністратара Магілёўскай і Менскай дыяцэзіяў. Доўга аднак маладому біскупу не прышлося быць на сваім становішчы, бо ўжо 17 верасьня 1927 г. бальшавіцкі ўрад яго арыштаваў і саслаў на Салавецкія абтокі ў лагеры прымусовых работ. Там трымалі біскупа да 1930 г. Пачынаючы ад 8-га лістапада 1930 аж да 1933 пераходзіць ён праз 17 савецкіх вязьніцаў, аж пакуль латышскі ўрад вымяніў яго на савецкага агента. У Латвіі пражыў біскуп Балеслаў да 1944 г.

Ня гледзячы на старэчы ўжо век — мае паза сабой 83 гады — біскуп Балеслаў трымаецца даволі добра. На ягоны юбілей з'ехалася шмат прыяцеляў. Сьвятая Літургія, якую соленізант адслужыў у лацінскай мове, за выняткам апостала і евангельля, прачытаных у мовах латышскай і беларускай, адбылася вельмі ўрачыста. Казань гаварыў кардынал Сунэнс.

Ад беларусаў было ўручана Я. Д. біскупу Балеславу іконка сьв. Юрага і ручнічок у народным стылю. Прысутнічалі біскуп Ч. Сіповіч, а. прот. Аўгень Смаршчок, сп-ва Жучкі.

Выказваючы шчырую ўдзячнасьць дастойнаму саленізанту за ягоныя цярпеньні і за ягоную працу для беларусаў на Бацькаўшчыне і на чужыне, жадаем Яму шмат яшчэ плённых і сьвятых гадоў жыцьця!

**Ч. С.**

## АЙЦУ АЛЕКСАНДРУ НАДСОНУ — 50 ГАДОЎ ЖЫЦЬЦЯ

Бяручыся напісаць гэтую зацемку аб блізкай і дарагой мне асобе, маю ў душы трывогу, каб ей не надакучыць, усім-бо ведама, што а. А. Надсон ня любіць шумных камплімэнтаў. Але-ж жывём у апошняй цьверці XX-га стагодзьдзя, ў эпоху тэлевізыі і журналістыкі, дый камплімэнтаў не зьбіраюся пісаць, а толькі праўду.

Айцец А. Надсон радзіўся 8 жніўня 1926 г. ў Гарадзеі (Нясвіжскага раёну). У час ваеннай завірухі апынуўся на чужыне. Тут ён дзе толькі і як можа не пакідае кніжкі і школы, прыймае адначасова дзейны удзел у беларускім эміграцыйным жыцьці (ЗБВБ, БНХР, БАКА »Рунь«). З натуры схільны да дакладных навук студ'юе перш хімію, пасьля матэматыку. Пачуўшы ў сабе прызваньне да служэньня Богу ў сьвятарстве едзе ў Рым і там, як студэнт Грэцкай Калегіі, студыюе на Грэгарыянскім Папскім Унівэрсытэце філязовію і тэалёгію. З тых часаў дасланы ў »Божым Шляхам« ягоны артыкул пра Грэцкую Калегію і пра даўнейшых яе сту-



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

дэнтаў беларусаў, які дагэтуль не страціў сваей вартасьці.

Дня 23 лістапада 1958 г. дыякан А. Надсон быў высьвячаны ў сьвятары, а 1961 г. па заканчэньні студыяў вярнуўся ізноў у Лёндан.

Галоўным заняткам а. А. Надсона ў Лёндане была Школа Сьв. Кірылы Тураўскага, якая праіснувала 15 гадоў, а праз якую прайшло каля 20 вучняў беларусаў і некалькі ангельцаў. Невялікая была наша школа, але дзеля складаных эміграцыйных абставінаў яна вымагала шмат часу і энэргіі ад яе кіраўніка, тымбольш, што вучні былі не паводле выбару здольнасьцяў, але найчасьцей прыходзіў да нас суровы запушчаны матэрыял. Апрача звычайнай праграмы ў ангельскай школе нашыя вучні павінны былі падрыхтоўвываць эгзаміны з беларускай мовы, гісторыі і літаратуры. Тут а. А. Надсон быў незаступны.

Калі ажывіла сваю дзейнасьць Ангельска-Беларускае Таварыства і пачало сыстэматычна сем разоў у год ладзіць на унівэрсытэцкім узроўні даклады, а. А. Надсон быў сталым лектарам і ягоныя даклады заўсёды былі арыгінальныя, добра апрацаваныя, а таму і цікавыя. Большасьць з іх пасьля друкавалася ў англя-моўным журнале беларусаведы, які сяньня цешыца пашанай ва ўсім навуковым сьвеце.

У 1971 г. быў куплены дом асабняк для Беларускай Бібліятэкі і Музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане. Хутка айцу А. Надсону быў даручаны новы абавязак бібліятэкара. За гэтых некалькі гадоў ББ разраслася, сталася вогнішчам беларусаведы. Тут вялікая заслуга яе бібліятэкара, каторы шчыра сур'ёзна і з ведай нятолькі выпісвае патрэбныя кніжкі, але і прыцягвае людзей. Аб гэтым паважаны чытач можа дакладней даведацца з артыкулу самога а. Надсона надрукаваным у нашым часапісе перш (»Б. Шл.«, Красавік-Чэрвень 1973, Нр. 2 (136) і ў гэтым нумары.

Пры ўсіх сваіх занятках айцец Александар астаецца сьвятаром і то ў першую чаргу. Даў гэтага доказы ва ўсіх сваіх друкаваных працах, у абыходжаньні з людзьмі, ў сваіх казанях і г. д. Айцец А. Надсон мае свой собскі стыль, хаця шмат рэчаў робіцца супольна ў грамадзе. Астаецца нам пажадаць яму далейшых посьпехаў і багаславенства Божага ў працы на ніве рэлігійнай і культурнай.

Як сьціплы падарак на 50-я ўгодкі ахвяруем прыгатаваную намі бібліяграфію працаў Айца А. Надсона, хаця й няпоўную, бо толькі ў беларускай мове.

НА ШЛЯХУ — Бюлетэнь Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі, Лёндан.

— З пад рэдактарскіх ножніцаў, Травень 1947, Нр. 4, с. 12.

— Куды нас вядзе навука, Студзень 1948, Нр. 1 (8), с. 10.

БЕЛАРУС НА ЧУЖЫНЕ — Выходзіў у Лёндане ў гадох 1947-50.

— Атомная энэргія, 6 сьнежня 1947, Нр. 3, с. 4-5.

— Атомная энэргія, 18 сьнежня 1947, Нр. 4, с. 4.

— Атомная энэргія, 2 студзеня 1948, Нр. 5, с. 7-8.

— З навукі і тэхнікі, 23 лютага 1948, Нр. 4 (8), с. 7-8.

— У пошуках прычын крызысу, 5 сакавіка 1948, Нр. 7 (11), с. 5-6.

— У пошуках прычын крызысу, 22 красавіка 1948, Нр. 8 (12), с. 3-4.

— У пошуках прычын крызысу, 28 траўня 1948, Нр. 10 (14), с. 3-4.

— Гара парадзіла мыш, 5 сакавіка 1948, Нр. 7 (11), с. 8.

— Вольнасьць прэсы, 28 чэрвеня 1948, Нр. 12 (16), с. 1-2.

— Перад новым этапам, 30 красавіка 1949, Нр. 8 (32), с. 3-5.

— Аб хуліганстве, 30 красавіка 1949, Нр. 8 (32), с. 9.

— Правы чалавека, 30 ліпеня 1949, Нр. 10-11 (34-35), с. 8-12.

БОЖЫМ ШЛЯХАМ —

— Тыдзень беларускіх каталіцкіх інтэлектуалістаў, 1951, Нр. 4 (43), с. 10.

— Сьвяты Тамаш Мор, 1952, Нр. 46, с. 10-13; нр. 47, с. 8-10; нр. 48, с. 8-11.

— Да пытаньня рэлігіі, 1952, Нр. 48, с. 12-14.

— Другі Тыдзень Студыяў БАКА »Рунь«, 1952, Нр. 49, с. 12-14.

— Супрацькаталіцкая прапаганда ў БССР, Нр. 51, с. 4-6.

— Царкоўная еднасьць, 1953, Нр. 52, с. 5-6.

— Пачатак Марыйскага Году ў Рыме, 1953, Нр. 57, с. 3-5.

— Грэцкая Калегія ў Рыме і Беларусы, 1954, Нр. 58, с. 11-13; нр. 59, с. 7-8.

— Школа імя Сьв. Кірыла Тураўскага ў Лёндане, 1964, Нр. с. 20.

— Казаньне на 25 Сакавіка, 1964, Нр. 84, с. 10-11.

— Беларусы ў Грэцкай Калегіі, 1964, Нр. 87, с. 5-11.

— Пазнаньне Бога, 1965, Нр. 4 (91), с. 2.

— Каляды і Багаяўленьне, 1965, Нр. 6 (93), с. 4-5.

— Сьвяты Кірыл Тураўскі, 1966, Нр. 2 (95), с. 4-9; нр. 3 (96), с. 2-7; нр. 4 (97), с. 3-8; нр. 5 (98), с. 3-9; нр. (99), с. 5-7.

— Цікавыя помнікі беларускага рэлігій-



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

нага пісьменства 15-га стагодзьдзя, 1966, Нр. 3 (96), с. 8-10.

— Пяць гадоў Школы Сьв. Кірыла, 1967, Нр. 1 (100), с. 2-5.

— Лаўрын Зізані, 1967, Нр. (102), с 3-8.

— У Сьвятой Зямлі, 1967, Нр. 3 (102), с. 9-11.

— Заходняя літаратура на Беларусі у XV-XVII стаг., 1968, Нр. 1 (106), с. 2-6; нр. 3 (108), с. 3-7.

— Вялікодныя думкі, 1968, Нр. 2 (107), с. 4-5.

— Малітаўнік Мамоніча 1601 г., 1970, Нр. 1 (118), с. 8-12; нр. 2 (119), с. 5-7.

— Беларускі рэлігійны твор канца XVII стаг. »Малітвы пры сьвятой літургіі« 1695 г., 1970, Нр. 5 (122), с. 5-10; нр. 6 (123), с. 5-9. 1971, Нр. 1 (124), с. 6-9; нр. 2 (125), с. 5-7.

— Рэцэнзія: Like Water, Like Fire. An Anthology of Byelorussian poetry 1828 — to the present day. Translated by Vera Rich. London, George Allen and Unwin, 1971. 347 p. Price £4.50. — 1971, Нр. 4 (127), с. 7-8.

— Еўеўскі буквар 1618 г., 1973, Нр. 1 (135), с. 3-9.

— За два гады. (Крыху пра Бібліятэку і Музэй імя Францішка Скарыны ў Лёндане), 1973, Нр. 2 (136), с. 10-13.

— Беларускія буквары XVII стагоддзя, 1973, Нр. 4 (138), с. 5-11.

— Новыя набыткі Беларускай Бібліятэкі, 1975, Нр. 3-4 (145-146), с. 4-8.

---

## БЕЛАРУСКІ ФЭСТЫВАЛЬ, 12 ЧЭРВЕНЯ 1976 Г.

У суботу дня 12 чэрвеня 1976 г. ў Цэнтры Мастацтваў у Нью Джэрсі ў Злучаных Штатах Амэрыкі адбыўся з посьпехам Беларускі Фэстываль, прысьвечаны 200-годзьдзю незалежнасьці Амэрыкі.

На трохгадзінную праграму злажыліся: *сьпевы* хораў пад дырыжорствам Д. Верасава, К. Барысаўца, жаночага сэкстэту »Гоман« і трыё; партыяў ў выкананьні П. Конюха, І. Каляды і М. Стрэчаня; *танцы* гурткоў: »Васілёк«, »Лянок«, »Мяцеліца«, дуэту беларусаў з Канады і адзін танец танцавальнага гуртка з Кліўленду; дэклямацыі мастацкіх твораў ў беларускай і ангельскай мовах; *выстаўка* твораў малярства беларускіх мастакоў (П. Міранoвіч, І. Рагалевіч, Г. Русак, І. Сурвіла, А. Стагановіч, Норык), графікі, вышыўкі і ткацтва.

Падрыхтоўка да фэстывалю трывала каля поўгоду. Ў арганізацыйны камітэт уваходзіла больш 30 ведамых беларускіх дзеячоў у Злучаных Штатах і ў Канадзе, а ачоліваў яго др. Вітаўт Кіпель. У выкананьні мастацкай праграмы прыняло ўчасьце 160 асоб, пераважна моладзі.

Адзін з удзельнікаў фэстывалю, які нядаўна з БССР прыехаў у Нью Ёрк, назваў фэстываль цудам (Глядзі: А. Клёнаў, Мае ўражаньні ад фэстывалю, Беларус, чэрвень-ліпень 1976, нр. 230-31). Без сумніву Ньюджэрскі Фэстываль быў найлепшай дагэтуль і найвялікшай беларускай нацыянальна-мастацкай імпрэзай у жыцьці беларусоў на чужыне. Па ліку выканаўцаў розных жанраў мастацтва, па ліку прысутных на залі, а асабліва дзякуючы высокаму мастацкаму ўзроўню, ён пяройдзе ў гісторыю нашай эміграцыі ў Амэрыцы як адна з сьветлых праяваў. Тут можна было-б паставіць пытаньне: чаму фэстываль удаўся? Розныя дзеілі прычыны, але яго посьпех быў вынікам перадусім натугаў арганізатараў (др. Кіпель, др. Запруднік і шмат іншых), ахвярнасьці беларускага грамадзтва, а ў першую чаргу нашых мастакоў, ну й сьпеласьці і сьведамасьці новага пакаленьня — нашай моладзі!

Першы такога разьмеру фэстываль няхай ня будзе апошнім!

—*—

## »КАРАВАН« У ТАРОНТА, 18-26 ЧЭРВЕНЯ 1976 Г.

»Караван« у Таронта — гэта фэстываль этнічных групаў, якія пры гэтай нагодзе паказываюць сабе і сьвету ўсё, што маюць найлепшага: мастацкія творы, народныя тканіны і вышыўкі, сьпевы, музыку, танцы і стравы. Беларускі павільён »Менск« — беларускі грамадзка-рэлігійны цэнтр — сёлета ўжо шосты раз з чаргі прыймаў удзел ва ўсёагульным таронтаўскім »караване«.

Гэты караван-фэстываль памастацку апісала сп-ня Раіса Жук-Грышкевіч у »Беларусе« (жнівень 1976, нр. 232). Хаця арганізатары беларускага павільёну гадамі астаюцца блізу тыя самыя асобы, аднак ад іх, як ад вогнішча, б'е цяпло нацыянальнага духа й даходзіць да штораз шырэйшых кругоў, а нават пачынае дэнэрваваць пісакаў »Голасу Радзімы«. Яны хацелі-б угаварыць сабе і нам, што беларускі патрыятызм за межамі Беларусі — гэта часовая забаўка... Час хіба пераканацца, што яно ні так! Павільён Менск на працягу шасьці гадоў адведала тысячы людзей розных нацыяў, ды й было на што ў ім паглядзець і падзівіцца!

Дык чэсьць вам і вялікае дзякуй за »караван« »мэру« Менска, старшыні павільёну, усім мастакам і артыстам, ды і той, што зладзіла эстычна-прыгожую выстаўку і ўсё з натхненьнем апісала.

—*—



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

## МАЛІТВЫ Ў ЭЙЛЬСФОРД ЗА ПРАСЬЛЕДАВАНЫЯ НАРОДЫ

Ведамая ў Эўропе арганізацыя »Дапамога Царкве ў Бядзе«, якую ачолівае а. Вэрэнфрыд Ван Страатэн, зарганізавала дня 11 ліпня 1976 г. рэлігійна-нацыянальную прошчу ў манастыр Айцоў Кармэлітаў у Эйльсфорд ў Англіі. Узялі ўдзел групы вернікаў ад мадзяраў, палякаў, летувісаў, чэхаў, *беларусаў,* латышоў, славэнцаў, харватаў і ад усходніх немцаў. Кожная група несла крыж з надпісам собскага краю. У беларускай групе былі каталікі і праваслаўныя, сярод якіх госьць з далёкай Аўстраліі сп. М. Нікан.

Прывітаньні й спачуваньні народам, што церпяць рэлігійны прасьлед, на рукі ўспомненай арганізацыі прыслалі кардынал Гюм, біскуп Бэрг, біскуп Магон і іншыя.

Айцец Ван Страатэн у доўгай сваей прамове падкрэсьліў той страшэнны прасьлед, які сяньня накінуўся на Божае Валадарства і яго вернікаў.

— Мы паносім вялізную адказнасьць — казаў а. Ван Страатэн — і ў першую чаргу таму, што мала турбуемся аб тым, каб церпячым і прыгнечаным даць доказы, што Ісус Хрыстос жыве ў сваей Царкве!

У будынках манастыра была таксама, хаця й на хуткую руку, наладжана выстаўка прасьледаванай Царквы.

—*—

## ВЫСЬВЯЦІНЫ ЭДВАРДА КАЗІМІРА ВАЙЦЕХОЎСКАГА НА ДЫЯКАНА

28 сакавіка 1976 г. ў нядзелю ў капліцы сьвятых Апосталаў Пятра і Паўлы, Марыян Гаўз, Фінчлі, Лёндан, — быў высьвячаны біскупам Ч. Сіповічам на дыякана Э. К. Вайцехоўскі. З біскупам Ч. Сіповічам саслужылі айцы Я. Гэрмановіч і А. Надсон. Прыгожа сьпяваў хор пад кіраўніцтвам сп. Г. Пікарды.

Пасьля Літургіі было зладжанае прыняцьце ў залі сьв. Кірылы Тураўскага, на якім беларусы й іхнія прыяцелі віншавалі нова-высьвячанага дыякана жадаючы яму посьпехаў у далейшай працы. Сам ён падзякаваў усім прамоўцам і прысутным у ангельскай і беларускай мовах.

Дыякан . Э. К. Вайцехоўскі ёсьць амэрыканін, ведае аднак славянскія мовы і жадае працаваць у будучыні сярод беларусаў і называе сябе беларусам праз адаптацыю.

Карыстаючы з аказыі прабываньня ў Эўропе а. дыякан Вайцехоўскі зведаў сьвятыя мecцы ў Эўропе: Рым, Люрд і Фаціму. Цяпер знаходзіцца ён у беларускай парахвіі пры царкве Хрыста Спаса ў Чыкага.

—*—

## 30-ты З'ЕЗД СЯБРОЎ ЗБВБ Ў ЛЁНДАНЕ

Дня 19 чэрвеня 1976 г. ў Беларускім Доме ў Лёндане, 52 Пэнн Роўд, адбыўся 30-ты з чаргі Агульны З'езд сяброў Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі. У склад новай Галоўнай Управы былі выбраныя: Я. Міхалюк — Старшыня; А. Жданковіч — Заступнік Старшыні; П. Навара — Сакратар; П. Асіповіч — Скарбнік; У. Гінка — Сябра. У Наглядную Управу і Сяброўскі Суд былі выбраныя: Я. Сяўковіч, Г. Пікарда і Хвёдар Лемяшонак.

—*—

## КАБ ДАКАЗАЦЬ СВАБОДУ РЭЛІГІІ Ў БЕЛАРУСІ, СПАТРЭБІЛАСЯ ЗАКЛІКАЦЬ ЯПОНСКАГА ПРАВАСЛАЎНАГА ЯПІСКАПА . . .

Японская дэлегацыя на чале з Праваслаўным Япіскапам Мікалаем Саяма наведала БССР. Прабыла там толькі тры дні і пэўне-ж апрача зведання Менска і Хатыні — рытуальныя візыты для тых, хто прыяжджае ў Беларусь — мусіла пераканацца, што ў Савецкім Саюзе наагул, а таксама ў БССР абсалютная рэлігійная свабода . . . А таму трэба-ж было тэта вялізарнымі літарамі надрукаваць у »Голасе Радзімы« (2 верасьня 1976 г., нр. 35 (1450), с. 5), а ну-ж хтосьці японскаму гасьцю сярод буржуазнай Эміграцыі паверыць, бо дагэтуль савецкім агентам ніяк не ўдалося пераканаць іх! . . . Дзе сьвярбіць — там і чэшыцца! Дзе ёсьць свабода чалавека і свабода рэлігіі, там ня пішуць аб свабодзе, там ёй жывуць!

## ЗВАРОТ ЛЕТУВІСАЎ ДА КАРДЫНАЛА БЭНГША

Кардынал Бэнгш, які пражывае ва ўсходнім Бэрліне, у жніўні 1975 г. адведаў Савецкую Літоўскую Рэспубліку. Такім чынам ён змог лепш пазнаёміцца з рэлігійным паложаньнем у той рэспубліцы. Апрача таго летувісы, выдаўцы самаіздат-хронікі, напісалі да кардынала ліст, у якім паінфармавалі паважанага царкоўнага Дастойніка аб запраўдным цяжкім паложаньні Каталіцкай Царквы. Для нас важным ёсьць тое, што летувісы пісалі кардыналу пра Беларусь. Вось пару сказаў з іхняга ліста ў беларускім перакладзе з нямецкай мовы:

»У бліжэйшай будучыні чакае нас лёс Беларусі і Украіны. Пяць мільёнаў каталікоў усходняга абраду ў Украіне ня маюць ані адной афіцыяльна адчыненай сьвятыні, ані аднаго афіцыяльна прызнанага біскупа і сьвятара. У Беларусі асталася жменька старых і хворых сьвятароў« (Digest des Ostens, Frankfurt-Main, 1976, Nr. 4, c. 91).

Добра было-б, каб гэтым лістом зацікавіўся



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

японскі біскуп Мікалай Саяма і »Голас Радзімы«, хаця сьляпым акуляры не памогуць!...

Вельмі сумную статыстыку рэлігійнага прасьледу ў Беларусі падае той самы нямецкі часапіс у артыкуле: »Паляваньне на вернікаў як на чараўніцаў« (»Hexenjagd auf Gläubige«, Digest des Ostens, Frankfurt-Main, 1975, Nr. 11, c. 87-89).

## ДЗЕЙНАСЬ МІНСКАГА МІТРАПАЛІТА АНТОНА

У нр. 6 гэтага году на бачыне 17 знаходзім у »Ж.М.П.« крыху вестак пра Мінскую Епархію і дзейнасьць яе герарха.

9 верасьня 1975 г. Архіяпіскап Антоні Мінскі атрымаў ад Маскоўскага Патрыярхі тытул Мітрапаліта. Выглядае, што гэты тытул дадзена герарху асабіста, а не для Беларускай Праваслаўнай Царквы, якая мусіла-б быць прынамсі Мітраполіяй.

З той самай крыніцы даведваемся, што Мітрапаліт Антоні адпраўляў Багаслужбы ў Магілёве, ў Берасьці, ў Баранавічах, ў Віцябску і Горадні.

## 5 ГАДОЎ СЬВЯТАРСТВА АЙЦА ЯНКІ ПЯКАРСКАГА

4 верасьня 1971 г. быў рукапаложаны ў сьвятарскі сан Айцец Янка Пякарскі Я. Д. Мітрапалітам БПАЦ Андрэям Крытам. На працяго пяці гадоў Айцец Янка адведаў шматлікія асяродкі праваслаўных беларусаў, навязаў адносіны з іншымі сьвятарамі грэцкай і украінскай юрысдыкцыяў. Пры тым ён блізу заўсёды прысутнічае на розных беларускіх з'ездах і зборках.

Дня 5 верасьня г. г. у Вульвэргамптон была наладжаная ўрачыстая Літургія з нагоды 5-ці годзьдзя Сьвятарства а. Пякарскага, на якой прысутнічала добрая колькасьць вернікаў, а пасьля сп. Янка Міхалюк прывітаў Айца ад імя Галоўнай Управы ЗБВБ і ўручыў яму падарак. І наша рэдакцыя жадае Паважанаму Айцу Пякарскаму шмат год плённай працы.

## ЮБІЛЕЙ: 50-я ЎГОДКІ ТАВАРЫСТВА СЬВ. ЯНА ЗАЛАТАВУСНАГА

Таварыства Сьв. Яна Залатавуснага сьвяткуе ў гэтым годзе свой залаты юбілей (1926-1976). Закладчыкам яго быў ангельскі біскуп Мэерс, а ягонымі прэзэсамі бываюць звычайна Вэстмінстэрскія Архіяпіскапы. Праз нейкі час сакратаром Таварыства быў а. Ч. Сіповіч, які сяньня ёсьць яго Старшынёй, а Сакратаром сп-ня Алёна Джэордзіядэс. Сябрам Управы ёсьць таксама а. А. Надсон.

Мэтай Таварыства ёсьць пазнаёміць заходні сьвет з гісторыяй, абрадамі і духовасьцю ўсходняга хрысьціянства, а таксама працаваць і маліцца, каб якнайхутчэй споўнілася воля Хрыста — каб усе злучыліся ў адной Хрыстовай Царкве.

Таварыства ладзіць зборкі з дакладамі, арганізуе пільгрымкі і багаслужбы. Яно выдае ў англ. мове часапіс »Хрызостам«, які шырока разыходзіцца па сьвеце, а ў якім час-ад-часу падаюцца весткі і пра Беларускую Царкву.

Юбілейная праграма ў асноўным адбывалася ў Лёндане 9 і 10 кастрычніка. На яе злажыліся наступныя даклады:

1) А. Джэордзіядэс: »Мэты і дзейнасьць Таварыства Сьв. Яна Залатавуснага«.

2) Біскуп Ч. Сіповіч: »Эўхарыстыя — лучнік паміж Каталікамі і Праваслаўнымі«.

3) Біскуп Рыгор Тропо: »Раздзяленьне Цэркваў і сучасныя спробы злучэньня«.

4) Айцец Юліян Вольтар: »Іконы і Літургія«.

5) Канонік Кантэрбэрыйскай Катэдры А. М. Ольчын: »Ісусава малітва і яе ўплыў на Захадзе«.

6) Архімандрыт Вэр: »Манашаскае жыцьцё сяньня на Патмосе«.

Пакольні пазваляў час пасьля кожнага дакладу адбываліся дыскусыі. Дакладчыкі належалі да розных вызнаньняў, але ўладарыў дух супакою і любві, ня гледзячы на рэлігійны падзел, які насупроць волі Хрыста дагэтуль існуе. Калі грэцкі праваслаўны біскуп Рыгор меў даклад, старшынёй зборкі быў біскуп Сіповіч.

Даклады папярэдзіла сьв. Служба ў Вэстмінстэрскай каталіцкай катэдры, якую саслужылі біскуп Ч. Сіповіч, архімандрыт Тамаш Варсавіяс з Істамбулу, а. Павал Гаро з Афінаў, а. Александар Надсон і а. дыякан Вільл'ямс з Рыму. Літургія адпраўлялася ў трох мовах: грэцкай, ангельскай і царкоўна-славянскай. Сьпяваў хор парахвіі Айцоў Бэнэдыктынаў з Кокфостэр (Лёндан). Казань гаварыў а. прыёр Эдмунд Джонс, які таго самага дня вечарам абходзіў сярэбраны юбілей свайго сьвятарства. Сярод шматлікіх гасьцей быў кардынал Гюм, некалькі біскупаў, а таксама і біскуп Сіповіч. Гэта ўрачыстасьць сьвяткавалася ў манастыры Айцоў Бэнэдыктынаў у Кокфостэрс. —

У сувязі з юбілеям Таварыства Сьв. Яна Залатавуснага біскуп Ч. Сіповіч быў запрошаны калегіяй унівэрсытэцкай Сьв. Тройцы у Лідс. Там ён дня 12 чэрвеня адслужыў сьв. Літургію, меў казань і даклад для студэнтаў пра рэлігійнае паложаньне на Беларусі. Пасьля выехаў у Брадфорд, дзе 13 чэрвеня, ў нядзелю меў сьв. Службу ў украінскай царкве, а ў Беларускім Клюбе »Сакавік« даклад для беларусаў.

## ВІКТАР СЕНКЕВІЧ АТРЫМАЎ НАВУКОВЫ ТЫТУЛ ДОКТАРА

У гэтым годзе на Мадрыцкім Унівэрсытэце Віктар Сенкевіч здаў з посьпехам эгзамены і абараніў дысэртацыю на ступень Доктара фі-



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

лязофіі. Тэма ягонай працы: »Пачаткі Вялікага Княжства Літоўскага«.

Паколькі нам ведама гэта першы выпадак у гісторыі, што беларус атрымаў навуковы тытул на Мадрыцкім Унівэрсытэце абараняючы цікавую тэзу. Адзін эгзэмпляр свайго рукапісу аўтар ахвяраваў Беларускай Бібліятэцы імя Францішка Скарыны ў Лёндане. Астаецца пажадаць, каб праца др. В. Сенкевіча была якнайхутчэй выдрукавана поўнасьцю, або прынамсі галоўная яе частка.

## БЕЛАРУСКІЯ РАДЫЯПЕРАДАЧЫ Ў МЭЛЬБУРНЕ І СЫДНЭІ

13 сакавіка 1976 г. першы раз на хвалях этэру перадавалася Аўстралійскім радыё у Мэльбурне аўдыцыя ў беларускай мове. На пачатку перадачы можна будзе слухаць раз на месяц.

20 ліпня 1976 г. адбылася першая беларуская передача ў Сыднэі. Перадачы адбываюцца раз на тыдзень праз радыястанцыю 2Е. А.

Апрача заслужаных камплімэнтаў трэба дасылаць нашым суродзічам адпаведныя матэрыялы для перадачаў.

А тымчасам нашым братам у Мэльбурне і Сыднэі шчырае — шчасьці Вам Божа!

## ПРА БЕЛАРУСКАЮ ЦАРКОЎНУЮ МУЗЫКУ

Праф. Унівэрсытэту ў Орэгон, Сьцяпан Рэйнольдс, Зл. Штаты Амэрыкі, ў сваім дакладзе, які меў 11-12 жніўня 1975 г. ў Сэнт Макрына, Уніёнтаўн, пра Карпата-Русінскую царкоўную музыку, успамінае таксама і пра царкоўны літургічны сьпеў у Беларусі і пра навейшыя студыі ў гэтай галіне Піхуры (Г. Пікарды). Даклад надрукаваны ратататарным спосабам і абыймае 22 бачыны канцэлярыйнага ліста.

## ПРА АЙЦА ТАМАША ПАДЗЯВУ

Нямецкі часапіс: »Der Christliche Osten«, XXX (1975) 6, с. 193-194, зьмясьціў артыкул пяра СМ (Кірылы Морэн) пра жыцьцё і дзейнасьць сьв. памяці айца Тамаша Падзявы, а таксама ягоны здымак. Айцец Тамаш, сябра Закону Айцоў Марыянаў, памёр 2 кастрычніка 1975 г.

## МІКОЛА ЛАЙКО РАСТРАЛЯНЫ

Нядаўна выйшла з друку кніжка ў нямецкай мове: »24 Сьведкі«. Вельмі шмат у ей матэрыялу пра нацыянальны і рэлігійны прасьлед у Савецкім Саюзе і то з вуснаў такіх сьведкаў, як Сахараў, Анатоль Левіцін-Красноў, Леў Квачэўскі, Марыя Сіняўская і інш. У кніжцы часта ўспамінаецца пра Беларускую Рэспубліку, а таксама падаецца здымак 17-ці летняга Міколы Лайко з Магілёва, якога савецкі афіцэр Лук'янаў застрэліў. Лайко браў удзел у рэлігійным фэстывалі моладзі.

Дакладныя дадзеныя пра кніжку: Hardmann/ Wippermann, 24 Zeugen, Dokumente des Terrors Sacharow-Hearing Kopenhagen, Verlag Johann Wilhelm Naumann, Würzburg.

## БРАШУРА ПРА РЭЛІГІЙНАЭ ЖЫЦЬЦЕ Ў БЕЛАРУСІ

У гэтым годзе ў Чыкага выйшла з друку брашура А. Друйскага, у якой, апіраючыся на савецкіх пераважна матэрыялах, аўтар апісаў жудасны стан Праваслаўнай і Каталіцкай Царкваў. Брашура ў ангельскай мове з трыма здымкамі сьвятыняў ведамых у Беларусі.

## КАЛОЖСКАЯ ЦАРКВА — МУЗЕЙНЫ ЗАПАВЕДНІК

Як падае »Голас Радзімы« (9 верасьня 1976, Нр. 36-1451, с. 8) старажытная Барысаглебская Каложская царква — узор майстэрства старадаўніх беларускіх дойлідаў — улучана ў састаў Гродзенскага музейнага гісторыка-археалагічнага запаведніка. Падаючы гэтую вестку В. Кушнер не стыдзіцца ўжываць двузначнік »рускі«: »майстэрства старажытнарускіх дойлідаў«, заходні фарпост »Рускай дзяржавы«. Беларусы у XII ст. будавалі той помнік і беларусы яго ахоўвывалі стагодзьдзямі, а ня нейкія бесхрыбетныя »рускія«.

## 30-я ЎГОДКІ »НА ШЛЯХУ«

30-га лістапада гэтага году спаўняецца акурат 30 гадоў ад часу, калі ў Лёндане ўбачыў сьвет першы нумар »На Шляху« з пад-тытулам »Бюлетэнь Згуртаваньня Беларусаў у Вялікай Брытаніі«.

Шэрыя літары збітыя ў кучу, быццам тыя авечкі пад бярозай пасьля буры, не заўсёды разборчывыя. Друкавана бачна часапіс на расклялпанай па-вайсковай машынцы і то рукой жаўнера, не прывыкшай яшчэ да канцэлярыйнай працы.

А зьмест?

Арганізацыйныя справы ЗБВБ, жыцьцё беларускай эміграцыі наагул, творы нашых клясыкаў: Купалы, Багдановіча, Аляхновіча . . ., ды'й свае ўласныя: М. Козыра, К. Ч., А. Н. Некаторыя з друкаваных у »На Шляху« артыкулаў да сяньня не страцілі сваей вартасьці, прыкладам: »Нашы мэты і заданьні« В/інцука/ Г/рышкевіча/; »Сьветам уладае рука Усёмагутнага« Ч/эслава/ К/укеля/; »Куды нас вядзе навука« А. Надсона.

Ад 1946 да 1951 г. выйшла часапісу ўсіх 13 нумараў, з якіх нумары 9 і 10 друкам. »На Шляху« — гэта нятолькі *першы* беларускі часапіс на Брытыйскай зямлі, гэта адбітак пачат-



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

ку цяжкога эміграцыйнага жыцьця часткі сьведамай палітычнай беларускай эміграцыі, перадусім быўшых вайскавікоў у розных арміях і беларускіх работнікаў перш вывезеных у Нямеччыну, а пасьля вайны пераехаўшых як »Д.П.« у Вяліка-Брытанію.

»На Шляху« — гэта ледзь не дакумэнтальная справаздача аб тым, як паўстала ЗБВБ, як яно залегалізавалася, як яно купіла *першы* беларускі грамадзкі Дом у Лёндане. Наканец »На Шляху« гэта вылію энтузыязму і сьвядоцтва жыцьцяздольнасьці беларусаў. Найлепш сьведчыць аб гэтым прыгожы тэкст — ідэйнае паясьненьне назову »На Шляху«, паўтораны на першых бачынках двох першых нумароў часапісу. У 30-ю гадавіну падаём яго бяз зменаў.

*— На Шляху а ня дома стаімо мы, выгнаньня з пад родных стрэх вайной і чужацкай навалай. Мяркуем дзе пайсьці, куды кінуцца ... бо аднэй няма а шмат дарог перад намі.*

*Гэта адна магла-б быць толькі дарога на Бацькаўшчыну ...*

*Нажаль ня можам мы сяньня пайсьці ёю, бо яна нас у няволю, на Сібір, на Калыму ці яшчэ куды далей завяла-б, а не на родныя гоні, не да сваіх бліскіх ...*

*Мы вернемся на Беларусь вольную, незалежную, злучаную братэрскай сувязьзю з іншымі вольнымі народамі-суседзямі!*

*А пакуль-што стаімо на Шляху ...*

*Аднак Шлях гэты мусіць быць Шляхам натужнай, дружнай падгатаваўчай працы усіх беларусаў да лепшай будучыні, да волі, культуры і дабрабыту і, як такі, мусіць злучыць усіх нас у адну вялікую сям'ю — і тых, што засталіся на Бацькаўшчыне, і нас на Эміграцыі ў Вялікай Брытаніі, на кантынэнце Эўропы і ў Заморскіх Краінах ...*

*Толькі тады ШЛЯХ НАШ будзе здаровым, творчым, жыцьцё-дайным, а не бездарожжам. —*

## ВІКТАР ГОМУЛІЦКІ — ПРЫЯЦЕЛЬ БЕЛАРУСКАГА НАРОДУ

В. Гомуліцкі (1851-1919) паэт і празаік, паляк. Ведамы ёсьць ягоны верш: »На Бялэй Русі«, першы раз надрукаваны ў 1908 г. ў варшаўскім тыднёвіку: »Тыгоднік Ілюстрованы« і ў кніжцы Гомуліцкага: »На розлогах Бялорускіх«, выданай таксама ў 1908 г. ў Варшаве. Беластоцкая »Ніва« перадрукавала верш »На Бялэй Русі« у нр. 22 (66), 1957 г. Ведамы ёсьць таго самага аўтара зборнік вершаў: »Сьвятла«, які выйшаў у Вільні ў 1919 г. У ім таксама быў зьмешчаны верш »На Бялэй Русі«.

Як можам бачыць, чытаючы творы В. Гомуліцкага, ён знаў Беларусь, захапляўся беларускімі народнымі песьнямі і ён прарочыў ім развіцьцё, што яны некалі стануцца магутнымі як голас Сэрафіна.

Беларуская Бібліятэка імя Францішка Скарыны нядаўна атрымала ад сп. Ч. Б. з Чыкага працавіта перапісаную аповесьць Гомуліцкага. За гэтак неспадзяваны падарак ББ вельмі ўдзячная. Пры нагодзе падаём апошнія звароткі верша Гомуліцкага ў арыгінальнай польскай мове.

*O białoruski ludu! Ścichną kiedyś burze,*
*Które nam zsyła los;*
*Wówczas, w słowiańskich plemion zespolnym [chórze*
*I twój też zabrzmi głos.*

*A głos ten będzie serafowy,*
*Na kształt ptaszęcej rannej mowy,*
*Z serca płynący, i nie z głowy,*
*Dźwięczny, jak pełny kłos ...*

—*—

Рыгор КРУШЫНА

# БРАТНЯЯ СУСТРЭЧА

(да 25-га Сакавіка)

**У Лёндане сустрэча — урачыстая,**
**Сівому смутку тут не ўкараніцца.**
**На сьвяткаваньні радасьць сьветлачыстая,**
**Карысная гаючая крыніца.**

**Яна раптоўна, хлынуўшы паводкаю,**
**Змывае накіп і былую скруху.**
**Далёкі край ня ёсьць перагародкаю**
**Ў жыцьці пачуцьцяў, роздуму і руху.**

**Хіба палохаюць дарог выбоіны?**
**Дармо часамі дробныя турботы.**
**Сярод сваіх я цёпла заспакоены,**
**Няма панурай колішняй самоты.**

**Сярод сваіх, дзе чую мову родную,**
**Дзе бачу я суродзічаў прыстанак,**
**Прыгадваю, як прыказку народную,**
**Сугучча слоў, яшчэ не скарыстаных.**

**Прыгожа-міла Бацькаўшчына мроіцца:**
**Браты, сябры і добрыя суседзі,**
**І ўвесь набытак у сямейнай хроніцы,**
**Як схованшча керамікі і медзі.**

**. . . Ня буду я спыняцца над высновамі.**
**Адно скажу, на беларускім сьвяце**
**І вы і я — з настроямі вясновымі —**
**Сакавіку наладзілі прыняцьце.**

*Увага:* Верш гэты быў прачытаны аўтарам у Лёндане ў 1975 г. у час урачыстага сьвяткаваньня абвешчаньня Незалежнасьці Беларусі. Рэдакцыя дзякуе Паважанаму Аўтару за дазвол друкаваць верш у »Б. Шл.«



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

# АДЫШЛІ НА ВЕКІ

## ДР. ЯНКА СТАНКЕВІЧ

16 ліпеня 1976 г. памёр у Злучаных Штатах Амэрыкі др. Янка Станкевіч пражыўшы 84 гады. Паходзіў ён з той самай вёскі Арляняты, Ашмяншчына, што і а. Адам Станкевіч і ягоны пляменьнік др. Станіслаў Станкевіч. Ад Арлянятаў бачна недалёка і да арлоў!

Янка Станкевіч перш вучыўся ў Віленскай Духоўнай Сэмінарыі (1911-1913?), пасьля ў Празе ў Чэхаславаччыне, дзе скончыў унівэрсытэт са ступенькай доктара філалогіі. Да апошняй вайны ў Заходняй Беларусі выкладаў беларускую мову на Віленскім Унівэрсытэце, быў паслом у Польскім Сойме (1928-1933), шмат пісаў і друкаваў у розных беларускіх газэтах і часопісах, асабліва з галіны філялёгіі, гісторыі і інш. На чужыне зарганізаваў Навуковае Таварыства імя Пранціша Скарыны, выдаваў часапіс »Веда«, пераклаў супольна з др. Гітліным на беларускую мову Біблію.

Вельмі працавіты, патрыёт, змагар за незалежную Беларусь, за беларускую культуру. Не аднаму даў добрую раду, няраз сказаў горкую праўду таму ці другому. Упарты індывідуаліст. Для беларусаведы і для беларускай мовы праз сваю упартасьць і капрызы нямала зашкодзіў. Быў ён аспрэчваным за жыцьця, ня інакш будзе і па сьмерці. Ня гледзячы на ўсё др. Янка Станкевіч заслугоўвае, каб хтосьці салідна і аб'ектыўна заняўся яго дзейнасьцю і яго працамі. Не ў адным працярэбліваў ён першы новы шлях.

Др. Янка Станкевіч — спадар — ёсьць невылучным зьвяном у навейшай гісторыі Беларусі на працягу больш паўсотні гадоў.

На паховіны ведамага ўсім Янкі сабраліся суродзічы ў значным ліку. Хаваў яго а. Архімандрыт Уладзімір Тарасэвіч. Прысутнічалі каталікі і праваслаўныя.

*Вечная памяць!*

## АЙЦЕЦ ПРОТАПРЭСЬВІЦЕР М. ЛАПІЦКІ

Дня 8 жніўня 1976 г. у беларускай летняй мясцовасьці Бэлэр-Менск, у Злучаных Штатах Амэрыкі памёр нагла а. прот. М. Лапіцкі, настаяцель прыхода Сьвятой Еўфрасіні Полацкай у Саўт Рывэр. Ня гледзячы на свой дзейны удзел у арганізаваньні БАПЦ у час нямецкай акупацыі Беларусі, ён на эміграцыі паставіўся варожа да Праваслаўнай Беларускай Царквы, якую узначалівалі перш архіяпіскапы Сяргей (Охоценка) і Васіль (Тамашчык). Сваю асобу і свой прыход узалежніў ад юрысдыкцыі Канстантынопальскага Патрыярхі.

Айцец прот. М. Лапіцкі нарадзіўся 13 сьнежня 1907 г. на Віленшчыне. У 1930 г. скончыў Віленскую Духоўную Сэмінарыю, пасьля праваслаўны багаслоўскі факультет Варшаўскага Унівэрсытэту ў 1934 г. У тым самым годзе быў высьвячаны ў сан сьвятара. На ўспомненым унівэрсытэце абараніў дысэртацыю на тэму: »Праваслаўе ў В. Кн. Літоўскім за часоў Ягайлы« і атрымаў ступень магістра багасловія.

Сваей сьмерцю а. Мікалай асіраціў дачку і сына Юрку, пакідаючы ўдавой спадарыню.

За жыцьця няраз а. Мікалай успамінаў і наш сьціплы часапіс у сваім »Царкоўным Сьветачы«. Верым, што яго гнеў на нас не спадарожнічыў ягонай наглай сьмерці, а праяўляліся ў яго ў выніку тых заблытаных царкоўных адносін у Беларусі, якія — нажаль — і сяньня сярод нас пакутуюць.

*Вечная памяць!*

## РАДАСЛАЎ АСТРОЎСКІ (1887-1976)

17 кастрычніка 1976 г. ў Злучаных Штатах Амэрыкі памёр Радаслаў Астроўскі, Старшыня Беларускай Цэнтральнай Рады (БЦР) у час апошняй вайны.

Радзіўся ён на Случчыне 25 кастрычніка 1887 г. у заможнай сялянскай сям'і. Пачаткі школьнай эдукацыі меў у Старыцы, пасьля ў Слуцку ў царкоўнай сэмінарыі, якую хутка заміняў гімназіяй у тым-жа Слуцку (г. 1902). Туды дапамог яму ўвайсьці Язэп Дыла, прыяцель сям'і Астроўскіх.

У час рэвалюцыйных непарадкаў (1905 г.), у якіх і Астроўскі быў замешаны, мусіў ён пакінуць гімназію, але пазьней удалося яму ўсёжтакі яе скончыць (1908 г.). Тады выехаў у Пецярбург і студыяваў на унівэрсытэце матэматыку, будучы адначасова старшынёй зямляцтва студэнтаў Случчаны. У 1911 г. быў арыштаваны і пасаджаны ў турму ў Пецярбурзе, пасьля перавезяны ў Пскоў, а адтуль мог выехаць у Пружаншчыну, дзе знаходзілася тады яго сам'я. Аставаўся пад надзорам паліцыі. Перамогшы розныя цяжкасьці выехаў у Дорпат і там скончыў унівэрсытэцкія студыі і ўжо ў 1913 г. быў настаўнікам фізыкі і матэматыкі ў гімназіі для дзяўчат у Чэнстахове ў Польшчы.

На пачатку І-ай сусьветнай вайны Р. Астроўскі пераяжджае ў Менск і там быў настаўнікам у розных школах да 1917 г., г. зн. да часу, калі



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

быў назначаны Керенскім камісарам Случчыны. Хутка арганізуе ў Слуцку беларускую гімназію, беларускія школы ў Цімкавічах і ў Грозаве і ў 1917 г. прыймае удзел у канфэрэнцыі ў Маскве, скліканай Керенскім. Разам з ім былі В. Іваноўскі, Я. Дыла і Бурбіс.

У сьнежні 1917 г. Астроўскі бярэ удзел у Першым Усёбеларускім Кангрэсе ў Менску. Уваходзіць ва ўрад Р. Скірмунта з адказнасьцю міністра асьветы. Выдае »Родны Край«. Каб змагацца супроць бальшавікоў, уступіў у армію Дзянікіна, а ў час выбуху Слуцкага паўстаньня прыймае ў ім актыўны удзел. Пасьля працуе (ужо пад Польшчай) ў Польска-Амэрыканскім Камітэце Дапамогі Дзецям.

У 1922 г. кс. Адам Станкевіч і Рак-Міхайлоўскі, паслы ў Польскі Сойм, запрасілі Радаслава Астроўскага на кіраўніка Беларускай Гімназіі ў Вільні, якой пагражала закрыцьцё з боку палякаў. Праз 13 гадоў Астроўскі астаецца ў Вільні на становішчы дырэктара гімназыі, г. зн. да 1936 г. Адначасова ён быў Старшынёй Таварыства Беларускай Школы (ТБШ), якое налічвала шмат сяброў, прыкладам у 1926 г. каля 12.000.

Другую сусьветную вайну Р. Астроўскі сустрэў у Лодзі, дзе ён быў у той час настаўнікам у польскай школе. У 1941 г. ён выехаў у Беларусь у Менск, дзе немцы даручаюць яму наладзіць цывільнае жыцьцё Меншчыны. З Менску разам з нямецкім войскам выехаў Астроўскі перш у Бранск, пасьля перавялі яго ў Смаленск і Магілеў. Адтуль у канцы 1943 г. быў ізноў выкліканы ў Менск, дзе арганізавалася Б.Ц.Р. Астроўскі згадзіўся яе узначаліць пад умовай, што немцы згодзяцца на арганізаваньне Беларускай Краёвай Абароны.

27 чэрвеня 1944 г. ў Менску адбыўся II-гі ўсебеларускі Кангрэс, пасьля якога хутка так яго ўдзельнікі, як і галоўныя арганізатары, мусілі ўцякаць на Захад перад бальшавіцкай навалай. Старшыня Б.Ц.Р. пакінуў Менск 30 чэрвеня 1944 г.

Дзеля зразумелых прычын Р. Астроўскі мусіў праз нейкі час хавацца, а нават паставіць пытаньне перад Пленумам Б.Ц.Р. ў Вюрцбургу аб развязаньні Б.Ц.Р., што на ягоную прапазыцыю 24 верасьня 1945 г. і было аднагалосна Пленумам пастаноўлена.

Пра асобу Р. Астроўскага, якая ў нязвычайна цяжкім часе адыгрывала важную ролю, будуць яшчэ няраз пісаць. Само ягонае імя: Рада — Слаў, якбы провідам ад калыскі зьвязала яго з *Радай* ...

Пасьля доўгага і бурлівага жыцьцёвага шляху няхай супачывае на векі! ●

# ДЛЯ ЦІКАВАСЬЦІ І НАВУКІ

## НОВЫ ЗАПАВЕТ У РАСЕЙСКАЙ МОВЕ

Ігар Траякоўскі — як падае »Голас Радзімы« (30 верасьня 1976, нр. 39 (1454) — зрабіў інтэрвію з архіяпіскапам Валакаламскім Піцірымам, з якога мы даведаваемся, што Маскоўская Патрыярхія выдала ў расейскай мове Новы Запавет тыражом 75.000. У Савецкім Саюзе такое выданьне з'яўляецца першы раз на працягу 50 гадоў! У 1968 г. была выданая Біблія, якой аднак ні ў аднэй савецкай кнігарні ня знойдзеш на лекарства. Тэкст Новага Запавету, так як і перш выданай Бібліі, ёсьць традыцыйны г. зн. некалі пацьверджаны Сынодам Расейскай Царквы. Арфаграфія сучасная савецкая.

Інтэрвю архіяпіскапа Піцірыма канчаецца »опровержением некоторых западных органов о »преследовании« церкви в Советском Союзе«. Больш таго, архіяпіскап заяўляе, што »советское законодательство предусматривает строгую ответственность за ущемление прав верующих«.

Замест гэтай на савецкі лад усім ведамай песянькі, чаму-ж паважаны архіяпіскап не паведаміў пры гэтай нагодзе, колькі было выдана ў савецкія часы рэлігійных кніг? А пры тым варта было-б даць і паясьненьне: чаму было зачынена сотні сьвятыняў або высаджаных дынамітам у паветра? Чаму замучана, растраляна таксама сотні сьвятароў і біскупаў каталіцкіх і праваслаўных? Чаму дагэтуль у Беларусі няма ані аднаго каталіцкага біскупа? Ды таксама варта было-б даць адказ і на гэта пытаньне: а чаму дагэтуль »наш« Мінскі мітрапаліт не пастараўся выдаць у беларускай мове Бібліі або хаця толькі яе частку Новы Запавет?

Англічане кажуць: прылёт адной ластаўкі ня робіць вясны. Таксама выданьне кнігі Новага Запавету зусім не азначае свабоды ў Савецкім Саюзе рэлігіі або Царквы.

## НЯВІННЫЯ ДЗЕЦІ

*Калі не навернецеся і не станеце, як дзеці, вы ня ўвойдзеце ў нябеснае валадарства.*
Мат. 18,3.

Я не знаю — гаворыць Бог — нічога прыгажэйшага на сьвеце, як рэзвы хлопчык, які гамоніць з Госпадам Богам у глыбокім садзе: дзіця ставіць пытаньні й само на іх адказвае ...

Маленькі чалавечак расказвае Госпаду Богу аб сваіх бедах самым сур'ёзным спосабам. Ён сам падказвае сабе, як Госпад Бог яго цешыць. А я кажу вам, што гэтыя словы ўцехі, ідуць проста ад Мяне.

Няма нічога прыгашэйшага ад дзіцяці, якое засынае з малітвай — гаворыць Бог.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

Я кажу вам, няма нічога прыгажэйшага на сьвеце . . .

А Я бачыў шмат прыгажосьці на сьвеце. Я ў гэтым знаток. Маё тварэньне поўнае прыгажосьці, яно поўнае цудаў. Іх гэтулькі, што няведама, куды іх падзець? . . .

Бачу Я глыб мора і глыб лясоў і глыб чалавечага сэрца . . .

I ўсё-ж Я кажу, што ня ведаю на сьвеце нічога прыгажэйшага ад дзіцяці, якое засынае з малітваю пад крылом анёла-вартаўніка. Засынаючы, дзіця ўсьміхаецца да анёлаў. Яно ўжо ўсё блутае і нічога не разумее . . . і ўстаўляе нятрапна словы з »Ойча наш«, калі заслона ўжо спускаецца на ягоныя вочы й на ягоны голас . . .

I таму — гаворыць Бог — Сын Мой сказаў пра гэта. Ягоны сказ трэба разумець даслоўна: »Дапусьціце дзетак прыходзіць да Мяне«. (Мат. 10, 14).

*Шарль Пэгі, з містэрыі нявінных дзяцей.*

## КАРДЫНАЛ СУНЭНС АБ АТЭІЗМЕ

13 красавіка 1976 г. кардынал Язэп Сунэнс за выдатную сваю дзейнасьць на рэлігійнай ніве атрымаў ад Фундацыі Тэмплэтон 30.000 фунтаў нагароду. Самую нагароду ўручыў яму прынс Філіп у каралеўскім палацы ў Лёндане, а ўрачыстасьць з дакладам кардынала ў прысутнасьці шматлікіх гасьцей адбылася ў Гілдгол. Адчыніла яе сп-ня Зачэр, лідар апазыцыі ў Брытыйскім Парляманце. Ад беларусаў быў прысутным біскуп Ч. Сіповіч.

У сваей прамове як сп-ня Зачэр так і кардынал Сунэнс вельмі моцна высказаліся супроць атэізму. Яго Эмінэнцыя Бэльгійскі Прымат сказаў, што грамадзтва, якое будуецца на атэізме, мусіць стацца ворагам чалавека.

Гэту самую нагароду што й кардынал Я. Сунэнс перш атрымалі Маці Тэрэза з Калькутты, Сарвэпальлі Радгакрышна з Індыі, брат Рожэр з Францыі з Тэзэ.

## СВАІМ УЛЮБЁНЫМ БОГ ДАРЫЦЬ СОН (ПС. 126, 2)

Бываюць людзі, якія не сьпяць.

— Я не люблю такіх, якія не сьпяць — гаворыць Гасподзь.

Сон — друг Бога.

Магчыма, што сон ёсьць адно з найбольш цудоўных маіх тварэньняў.

Я Сам аддыхаў на сёмы дзень.

У каго сэрца чыстае, той сьпіць. I ў сьпячага сэрца чыстае.

Вось вялікі сакрэт: быць нястомным як дзіця.

Уставаць кажнай раніцы заўсёды жывым. А мне гавораць, што ёсьць людзі, якія добра працуюць, але дрэнна сьпяць. Мне іх шкода . . .

У іх няма мужства, няма даверу да Мяне і таму яны не сьпяць.

Мне іх шкода. Я імі нездаволены, яны не давераюць Мне. Яны не кладуцца нявіннымі ў абоймы Божага Провіду, як нявіннае дзіця ў абоймы сваей маткі . . .

Няшчасныя, яны ня ведаюць, што добрае.

Яны дасканала кіруюць сваімі справамі ў працягу дня, але яны ня хочуць даверыць Мне кіраваньне ў час ночы, быццам-бы я ня змог кіраваць імі хоць-бы праз адну ноч . . .

А ці-ж няма людзей, якія кладучыся пакідаюць няўладжаныя справы, а знаходзяць іх найлепш уладжанымі, калі ўстаюць?

Гэта таму, што Я праходзіў там міма . . .

*Шарль Пэгі, 3 містэрыі:*
*»На парозе тайны«.*

Збеларушчыў а. *Я. Г.*

## АДЗЫЎ а. АЛЯКСЕЯ ЗЕРЧАНІНАВА АБ УЖЫВАНЬНІ Ў ЛІТУРГІІ ЖЫВЫХ СЛАВЯНСКІХ МОВАЎ

Айцец Аляксей Зерчанінаў радзіўся 9 сакавіка 1848 г. ў Расеі ў Ніжегародзкай губерніі. Яго бацька і сын былі праваслаўнымі сьвятарамі. Сам ён скончыўшы праваслаўную сэмінарыю быў рукапаложаны ў сьвятары ў 1871 г. Вучыў у школах дзяцей рэлігіі, быў місіянерам сярод стараабрадцаў. Вельмі шмат чытаў духоўнай літаратуры. У 1896 г. зрабіў вызнаньне каталіцкай веры і ад таго часу шмат цярпеў ад царскага ўраду, а пазьней ад Бальшавікоў. Быў ён адным з піянераў злучэньня Праваслаўнай Царквы з Каталіцкай. Памёр у Савецкім Саюзе на выгнаньні ў 1933 г.

Будучы ў Суздальскай вязьніцы ён напісаў цікавы твор у 12 часьцях пад назовам: »Царство Божие в Мире« з падзагалоўкам: »Компиляция материалов, прочитаных деревенским диллетантом«. Твор гэты тайна быў вывезены ў рукапісе з Расеі і надрукаваны ў 1904 г. ў Кракаве, у той час пад Аўстрыяй.

У кнізе IX: »Богослужение« аўтар застанаўляецца над царкоўнай літургічнай мовай і дзівіць яго факт, што няма ў ужытку літургічным жывой расейскай мовы, а тымбольш беларускай і украінскай »не получивших права гражданства в панславистском сборнике »Пчелы« по всей вероятности потому, что представителям последних наречий, как грекоруссам по вероисповеданию, весьма грешно беседовать с Отцем Небесным на своем родном, — национальном наречии . . .« (Адносьнік 40), нр. 2, стр. 35).

*Заўвагі:*

Айцец Аляксей адзінакава называе »наречие« усе тры мовы: расейскую, украінскую і беларускую.

»Пчела« — расейскі ілюстраваны тыднёвік мас-



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

тацтва, літаратуры і палітыкі, які выходзіў у Пецярбурзе ў гадох 1875-78.

»Грекорусам по вероисповеданию« — грэкакаталікам або уніятам.

Гіронія айца Аляксея ў адносінах да панслявістаў, паводле якіх »грэшна« гутарыць з Нябесным Айцом у сваей роднай нацыянальнай мове.

—*—

Паводле трэбніка (XV-пач. XVI ст.) на Вялікдзень у час утраньні дыякан па ўсіх песьнях канона з амбона клікаў тры разы: Хрыстос уваскрос!

Той трэбнік у рукапісі знаходзіцца ў Ватыканскіх Архівах. Апісаў яго базыльянін а. М. Ваврык, называючы цэннай памяткай беларуска-украінскіх абрадаў.

—*—

Калі Вэльямін Язэп Рутскі быў маленькім хлапчуком і называўся Янка, ягоны бацька аднаго разу зьвяртаецца да яго і пытае:

— Што з табой будзе, калі вырасьцеш?

— Буду Божым слугой — адказаў Янка.

Як ведама, Рутскі стаўся каталіком (ягоны бацька быў кальвінам), законьнікам, сьвятаром, уніяцкім мітрапалітам і заслыў з вельмі сьвятога жыцьця.

—*—

27 красавіка 1976 г. Папа Павал VI назначыў 19 новых кардыналаў. Значыць Сьвятая Кальлегія складаецца з 138 сяброў, сярод якіх 120 мае права выбару Папы.

Сярод нованазначаных кардыналаў ёсьць: архіяпіскап Дакару (Афрыка); архіяпіскап Эштэргому, наступнік праслаўутага кардынала Мідсэнті; архіяпіскап паўночнага Віетнаму, які быў выяўлены пазьней.

—*—

Езуіт (увага: не-эксезуіт!) а. М. Аранц 27. X. 1975 г. здаў эгзамін магістра багасловія ў Царкоўнай Акадэміі ў Ленінградзе і надалей астаецца прафэсарам у той-жа Акадэміі.

19. VI. 1975 г. а. Сьцяпан Дымша, па паходжаньні беларус, цяпер сьвятар Маскоўскай Патрыярхіі, здаў эгзамін і абараніў дактарскую тэзу ў Рыме ў Папскім Інстытуце Усходніх Навук. Яго дактарская праца: »Канстантынопальская Праваслаўная Царква ў абліччы гісторыі і сьвятых канонаў«.

—*—

# ДА НАС ПІШУЦЬ

## ДЗІЎНАЯ РЭЦЭНЗІЯ

У № 13 час. Запісы Беларускага Інстытуту навукі й мастацтва (New York, 1975), на бб. 139-143, зьмеашчана рэцэнзія В. Кіпеля на пачатак нашае працы »Мова ў гісторыі беларускага пісьменства« (Мюнхэн-Лёндан. 1974-1975). Як аўтару рэцэнзаванай кніжкі (а значыць — зацікаўленай асобе) нам ня зручна выступаць у справе названай рэцэнзіі. Аднак пасьля некаторых ваганьняў мы прыйшлі да высновы, што ў інтарэсе чытача лепей гэта зрабіць.

На пачатку павінны зазначыць, што ў нашай кніжцы, як і ў кожнай іншай, могуць быць тыя ці іншыя недахопы. І мы будзем удзячныя кожнаму, хто нам іх пакажа. Нажаль, яны ня там, дзе іх шукае рэцэнзэнт.

Перш-наперш рэцэнзэнт ці *няўважліва* прачытаў нашу кніжку, ці *не зразумеў* яе. Ён піша: »Разгляданая кніжка, гэта *рэгістрацыйна-крытычны й бібліяграфічны агляд літаратуры*[1] пра памяткі пісьменства, пра бібліятэкі й архівы Беларусі ды іхны лёс«[2] (б. 139); »кніжка *бібліяграфічна-даведнага тыпу*« (б. 139), у якой »сабраны... *інфармацыйна-бібліяграфічны матар'ял*« (б. 142).

Цяжка паверыць, што можна так *няправільна* зразумець *тэму* кніжкі (»зьмест«, паводля тэрміналёгіі рэцэнзэнта). *Ніякага »бібліяграфічнага агляду літаратуры«* ў рэцэнзаванай кніжцы няма. Яна — »Уводзіны« да шырэйшае тэмы, названае на вокладцы; *кароткі нарыс* на тэму *»Лёс помнікаў старога беларускага пісьменства«*, як гэта й сфармулявана ў ейным падзагалоўку. Лёс гэты мы прасачылі, наколькі гэта нам было даступна й патрэбна, галоўна на лёсе беларускіх бібліятэк і архіваў XII-XVIII ст. ст. (У наступнай кніжцы, здадзенай у друк за 2-3 месяцы перад зьяўленьнем рэцэнзіі, будзе працяг »Уводзінаў« — «Дасюлешні стан вывучэньня помнікаў беларускага пісьменства X-XVIII ст. ст.« Аўтар меў замер выдаць »Уводзіны« ў воднэй кнізе, але цяжкасьці друку змусілі яго разьбіць іх на дзьве меншыя).

Рэцэнзаваны нарыс, хоць і можа разглядацца за самастойнае, тэматычна закончанае дасьледаваньне (што дало нам права выдаць яго асобнай кніжкай) ня ёсьць мэтаю самога дасьледаваньня. Роля ягоная, як і кожных уводзінаў, службовая да галоўнае тэмы працы. З гэтага вынікае, што мы ня ставілі сабе мэты даць сьпіс *усіх* бібліятэк і архіваў XII-XVIII ст.ст. у Беларусі. Зь яго мы выключылі ня толькі бібліятэкі й архівы, каторыя паўсталі ўжо ў XIX ст., але паўсталыя й перад XIX, пра якія ведама, што

1) Падкэсьленьні тут і ўсюды нашыя.

2) Захоўваем знакі прыпынку рэцэнзэнта.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

ў іх помнікаў старога беларускага пісьменства ня было, дзеля чаго яны ня маюць дачыненьня да тэмы нарыса.[3]

Зусім натуральна, што нарыс абапёрты на гістарычныя пісьмовыя крыніцы й літаратуру, якія *строга абмежаваныя тэмаю* нарыса й *адборам важнейшых* зь іх.

Такім чынам, тэма рэцэнзаванае кніжкі — *не бібліяграфія літаратуры* пра лёс помнікаў (у такім выпадку трэба было-б укладаць якнайпаўнейшы сьпіс літаратуры ў дадзеным пытаньні), а, наадварот, *лёс помнікаў* паводля гістарычных крыніцаў і літаратуры.

Нічога не сказаўшы, што-ж усётакі ў кніжцы ёсьць, рэцэнзэнт адразу пачаў шукаць, чаго ў ёй няма й не павінна быць паводля аўтарскае задумы й пляну.

Падзагаловак кніжкі (»Лёс помнікаў старога беларускага пісьменства«) запярэчвае няправільнаму разуменьню рэцэнзэнтам тэмы. З гэтага ён робіць выснаў: падзагаловак не адпаведны, ён »не паказвае на бібліяграфічны, — як жадае рэцэнзэнт, — перш за ўсё зьмест кніжыцы« (б. 140). І яшчэ болей, дадае ён: ». . . У бібліяграфічныя паказьнікі каталёгаў яна таму, як правіла, ня трапіць« (б. 140).

Пасьля таго йдуць розныя »няўлікі«, »важныя пропускі« »ды іншыя недастаткі« (б. 143). Тут рэцэнзэнт не палічыўся ня толькі з тэмаю рэцэнзаванага выданьня, але й з акалічнасьцю, што памер і адбор матар'ялу для ўводзінаў ці іхных частак аўтар абумоўлівае якімісь меркаваньнямі, пра мэтазгоднасьць каторых не аўтар можа судзіць толькі тады, калі пазнаёміцца з усёй працаю, бо ня можа ведаць наперад ні ейнае кампазыйыі, ні абыйма й разьмяшчэньня ў ёй матар'ялу.

»Пропускі ў разгляданай працы, — піша ён, . . . даволі, нажаль, паважныя« (б. 140): 13 на . . . каля 700 адабраных намі й названых або разгледжаных ува ўводзінах крыніцаведных пазыцыяў. »Пропускі« гэтыя розныя.

Адны зь іх *ня маюць дачыненьня да тэмы рэцэнзаванае кніжкі*, таму што *ў іх няма ніякіх дадзеных да гісторыі беларускіх бібліятэк і архіваў XII-XVIII* ст. ст. Прычым, некаторыя зь іх — агляд фондаў рукапіснага аддзелу Цэнтральнай Бібліятэкі Акадэміі навук Летувіскай ССР у Вільні (чамусьці не названага аўтара, В. Абрамовічыуса), артыкулы А. Луцкевіча пра Беларускі музэй імя І. Луцкевіча ў Вільні й Л. Аляксеява пра крыж Афрасіньні Полацкае, бібліяграфія скарыніяны В. Тумаша — разам із каля 450 іншымі працамі, у нас ёсьць у згаданай ужо тут 2-ой кніжцы ўводзінаў, адумыслова прысьвечанай *тэме вывучэньня* помнікаў старога беларускага пісьменства. Артыкула Н. Эрнста пра бібліятэку графаў Храбтовічаў мы ня ведалі. І хоць у нас названыя чатыры іншыя крыніцы пра яе ў 1-ай кніжцы (зноскі 48 і 49) ды будзе названая яшчэ адна ў 2-ой (С. Пташыцкі), за гэту інфармацыю дзякуем. Ня можам прамаўчаць тут, што рэцэнзэнт у цьверджаньні аб тым, што ў кніжцы В. Абрамовічыуса нібы »ёсьць, між іншага, і вопіс фонду рукапісаў былога Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіча« (б. 141) не дакладны. Ні вопісу рукапісаў гэтага музэю, ні вопісу іх у іншых фондах у В. Абрамовічыуса няма: у яго ёсьць толькі »краткое обозрение« іх.

Другія »пропускі« *таксама паза тэмаю рэцэнзаванае кніжкі*, бо нарыс пра »Лёс помнікаў старога беларускага пісьменства« — гэта-ж *ня »вопісы збораў«* (І. Луцкевіча, А. Ельскага, як і якіх-бы то ні было іншых) ці *паасобных помнікаў пісьменства, жанраў і г. д.* У нас пра іх толькі прынагодныя згадкі, пабежныя ўвагі. Таму як нелягічна гучыць рэцэнзія пра такі »пропуск«:

»Загана асабліва вялікая працы, што ў ёй выпушчаныя зусім зь віду вельмі важныя, унікальныя для старога беларускага пісьменства, памяткі пісаныя арабіцай. Уражае гэта асабліва таму, што існуе знакамітая публікацыя А. К. Антановіча, у якоў дадзены ўлік ды грунтоўны вопіс больш дваццаці напісаных пабеларуску арабіцай рукапісных кнігаў . . .

У разгляданай кнізе ніякага наагул успаміну пра само існаваньне пісаных арабіцай памятак беларускага пісьменства. Ня згаданы навет і даўно ведамы ды дакладней апісаны беларускі »Ай Кітаб« з Сорак Татараў былога Беларускага Музэю імя Івана Луцкевіча ў Вільні« (б. 142).

Сьпярша паправім рэцэнзэнта. 1) У А. Антановіча *няма »больш дваццаці напісаных пабеларуску арабіцай . . . кнігаў«. Ды й наагул такія кнігі ў беларускім пісьменстве невядомыя.* Ёсьць рукапісы арабскіх ці турэцкіх тэкстаў (кітабаў, тапсіраў, хамаілаў, каранаў і інш.), да якіх дададзеныя поўнасьцю або найчасьцей толькі ўва ўрыўках падрадковыя пераклады ў народную беларускую мову ці якіясь тлумачэньні. Із 21 рукапіса А. Антановіча ў 7 ёсьць болей ці меней такіх беларускіх тэкстаў, у іншых 7 — адпаведна беларускіх і польскіх, у 4 — польскіх зь беларускімі асаблівасьцямі ў мове й у 3 — ня то польскіх, ня то беларускіх. Із усіх іх да старога беларускага пісьменства належаць 10 або 11 рукапісаў XVIII ст. ст. (Рэшта — рукапісы XIX і XX ст. ст.). 2) Не *»Ай Кітаб«*, а *»Аль* кітаб« (сьвятая кніга). Памылку І. Луцкевіча й М. Гарэцкага ўжо ў 1924 г. выправіў Я. Станкевіч. 3) *Значаньне гэтага перакладнога пісьменства* ў гісторыі беларускае літаратуры рэцэнзэнтам *дужа перaўвялічана.* Яно значна сьціплейшае: а) у сьведчаньні таго, што татары ў Вялікім княстве Літоўскім, забыўшы-

[3] Такіх бібліятэк і архіваў шмат названа ў А. Шлюбскага. Яшчэ болей іх у згаданага ў рэцэнзіі Э. Хвалевіка й у інш. аўтараў.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

ся свае мовы, карысталіся беларускай моваю; і б) яно мае вартасьць для дасьледаваньня гаворак народнае беларускае мовы.

Названая праца А. Антановіча (і іншая ягоная, ня менш важная, із гістарыяграфіяй і паўнейшай бібліяграфіяй вывучэньня гэтага пісьменства, із архэграфічным апісаньнем і разглядам мовы ўсіх 21 рукапісаў — »Краткий обзор белоруских текстов, писанных арабским письмом«, зб. »»Полесье«, АН БССР, Москва, 1968 г., бб. 256-299), як і некаторыя іншыя, згаданыя ў рэцэнзіі, ды прапушчаныя рэцэнзэнтам працы другога найбольшага дасьледчыка гэтага пісьменства, дра Я. Станкевіча, у нас ёсьць у 2-ой і 4-ай кніжках. Галоўнае аднак ня ў гэтым. Яно ў тым: як рэцэнзэнт ня бачыць, што, калі-б мы зьбіраліся даваць »вопісы« помнікаў пісьменства, то, відаць, пачыналі-б не ад малаважных і перакладных, а ад важнейшых і арыгінальных — летапісаў, мэмуараў, царкоўнай паэзіі, вершаў, сатыры й г. д«. — »вопісы« якія у нас таксама »прапушчаныя«.

Із пазасталых »пропускаў« (калі ня браць на ўвагу невялічкага артыкула У. Пічэты із згадкамі названых намі паводля чатырох іншых крыніцаў бібліятэк Віленскай язуіцкай акадэміі й падканцлера К. Сапегі) застаецца *адна публікацыя, якая мае дачыненьне да нашае тэмы* — артыкул П. Крэчэўскага. Яе рэцэнзэнт назваў першай і аднэй із галоўных. Дзеля чаго й спынімся на ёй.

Рэцэнзэнт піша: »У галіне працаў пра лёс бібліятэкаў і архіваў Беларусі *ня ўзятая... зусім на ўвагу* праца Пётры Крэчэўскага Гісторыя беларускае кнігі«... У ёй дадзены даволі дэтальны агляд гісторыі рукапіснае й друкаванае кнігі ў Беларусі й яе кнігасховаў, прыведзена шмат статыстычных лікаў пра бібліятэкі, дадзеныя інфармацыі пра іхны лёс у часе расейскага панаваньня, пра нішчэньне беларускіх кнігаў і бібліятэкаў, прыводзіцца багатая бібліяграфія« (б. 140).

1) Артыкул П. Крэчэўскага, хоць і напісаны на іншую ад нашае тэму, у двух месцах (на бб. 100-101 і 104-108)[4] запраўды мае некаторыя матар'ялы да нашае тэмы. Аднак рэцэнзэнт ня ведае, што матар'ялы гэтыя ў свой артыкул. П. Крэўчэўскі перанёс із выкарыстанае намі працы А. Шлюбскага, *нічога новага да яе не дадаўшы*. Ужо гэтая акалічнасьць прамаўляе за тое, што із артыкула П. Крэчэўскага мы не маглі »узяць... на ўвагу« таго, чаго ў ім няма.

2) »У ёй дадзены *даволі дэтальны агляд... кнігасховаў...*« Названая *адна Полацкая бібліятэка* без спасылкі на якіясь крыніцы пра яе: »Манастыр Афрасіньні Полацкай быў першым кнігасховам на Беларусі« (б. 100). Афрасіньнеўскім манастыром у Полацку, як ведама, быў Спаскі, але пра бібліятэку ў ім у навуцы нічога невядома. Таму П. Крэчэўскі тут, відаць, меў на ўвазе бібліятэку Сафійскага сабору, у кельлі якога Афрасіньня першапачатна жыла й перапісвала кнігі. Пра гэту бібліятэку й ейны лёс у нас ёсьць інфармацыі й крыніцы А. Шлюбскага (бб. 6 і 19, зноска 8), да якіх мы дадалі новыя дадзеныя й гістарычныя крыніцы (бб. 19-20, 61-62, зноскі 9, 10, 267). На б. 101, як і ў А. Шлюбскага (§ 2), у П. Крэчэўскага ёсьць яшчэ згадка пра раньнія смаленскія бібліятэкі. Дзеля таго аднак, што пэўных гістарычных сьведчаньняў пра іх няма (а толькі здогады), мы ў сваім нарысе іх не назвалі.

3) »... прыведзена *шмат статыстычных лікаў пра бібліятэкі...*« У вартыкуле *няма ніякае статыстыкі бібліятэк* (на бб. 112 і 114-115 ёсьць статыстыка беларускага кнігадруку за час ад 1917 да 1925 г., галоўна ў БССР).

4) »... дадзеныя інфармацыі пра іхны лёс у часе расейскага панаваньня, пра нішчэньне беларускіх кнігаў і бібліятэкаў...« На бб. 104-108 прыведзеныя згадваныя вышэй некаторыя матар'ялы із А. Шлюбскага, не правераныя паводля іншых крыніцаў, а таму ў частцы — *із дакумэнтальна не даведзенымі, недакладнымі ці спрэчнымі* інфармацыямі пра факты 1581 (у А. Шлюбскага — § 8), 1590-91 (§ 90а), 1610 (§ 13) і інш. гг.

5) »... *прыводзіцца багатая бібліяграфія*«. *Ніводнай новай* пазыцыі, якой няма ў А. Шлюбскага.

На іншым месцы рэцэнзіі (бб. 141-142) рэцэнзэнт назваў адну бібліятэку, якая, паводля яго, у нас недаравальна прапушчаная. Гэта бібліятэка Ф. Скарыны.

Мы не сумняваемся, што такая бібліятэка была, як і шмат іншых, не названых намі. Свой пералік бібліятэк мы закончылі ўвагай: »Да нашых *няпоўных* сьведчаньняў можна было-б бяз рызыкі дадаць, што большыя ці меншыя бібліятэкі былі пры кожным манастыры, шмат якіх цэрквах, усіх калегіях і іншых школах, княжых і магнацкіх дварох і г. д.« (бб. 15-16). У нашым сьпісе названыя толькі тыя зь іх, *на якія мы знайшлі пісьмовыя сьведчаньні ў гістарычных крыніцах XII-XVIII ст. ст.* Наш сьпіс (у ім названа 71 бібліятэка, апрача 19 прыпушчальных) таму й азагалоўлены *»Пісьмовыя сьведчаньні* пра беларускія бібліятэкі й архівы XII-XVIII ст. ст.« Такіх сьведчаньняў пра бібліятэку Ф. Скарыны мы ня ведаем, і рэцэнзэнт іх нам не назваў.

Было-б па меншай меры нелягічным, калі-б мы за такое сьведчаньне ўважалі, як радзіць рэцэнзэнт, дрэварыт з партрэтам Ф. Скарыны, на якім відаць якіясь кнігі. Ня можам таксама ўсур'ёз лічыцца і з аргумэнтам рэцэнзэнта пра »склад бібліятэкі Скарыны«. Папершае, у нас сьведчаньні пра склад названых намі бібліятэк

[4]) Балонкі паказаныя паводля зб. »Замежная Беларусь«, Прага, 1926 г.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

із гістарычных пісьмовых крыніцаў *XII-XVIII ст. ст.* Для кожнае бібліятэкі паказаная дата сьведчаньня, і толькі ў двух выпадках (пра бібліятэку Полацкай язуіцкай калегіі й некаторыя школьныя бібліятэкі XVIII ст.) мы апіраемся на дакуманты пачатку XIX ст. (бб. 8 і 18-19). Таму ізноў-жа было-б нелягічным *сёньняшнія разважаньні* рэцэнзэнта ўважаць *за гістарычнае пісьмовае сьведчаньне з XII-XVIII ст. ст.* Падругое, разважаньні гэтыя пазбаўленыя доказнасьці. Паклікаючыся на вядомую кнігу пра Ф. Скарыну П. Уладзімірава (1888 г.), рэцэнзэнт спрабуе ўкласьці сьпіс кніг бібліятэкі Ф. Скарыны. Але-ж П. Уладзіміраў нічога не гаворыць пра бібліятэку Ф. Скарыны ці ейныя кнігі. Ён гаворыць пра кнігі, якімі Ф. Скарына карыстаўся пры сваіх перакладах. Гэта-ж не адно й тое-ж. Адкуль рэцэнзэнту ведама, што кнігі тыя належаць Ф. Скарыне? А ня мог ён для сваіх перакладаў у кагось іх выпазычыць ці карыстацца кнігамі зь якіхсь іншых бібліятэк?

Далей рэцэнзэнт »зварочвае ўвагу« на »драбнейшыя хібы працы«.

1) На *адсутнасьць* »канечных у выданьнях гэткага зьместу *паказьнікаў«* (б. 142), а якія ў запраўднасьці ў нас ёсьць у 2-ой кнізе, у канцы »Уводзінаў«, і на ніякім іншым месцы быць ня могуць.

2) На *»няўдалы пераклад* царкоўнаславянскага назову . . . »Тріодь цветная«, якую аўтар пабеларуску называе »Трыодзь каляровая«. Малянцца ў праваслаўных сьвятынях, — гіранізуе ён, — пэўна-ж не па »каляровых« літургічных кнігах« (б. 142).

Тэрмін »Трыодзь *каляровая«* мы ня выдумалі, і гэта ня наш пераклад. Ён уведзены ў навуковы ўжытак Акадэміяй навук БССР,[5] і ніякага іншага тэрміну для назвы гэтае кніжкі ў беларускай тэрміналёгіі няма. Як і царкоўнаславянскі і расейскі тэрмін »Тріодь *цвѣтная«*, ён — *не дакладнае* азначэньне кнігі паводля ейнага вонкавага выгляду ( і гіронія рэцэнзэнта тут не на месцы), *а пераносна-паэтычнае* паводля нутранога, тэкставага зьместу. Нічога дзіўнага таму, што мы аддалі перавагу *беларускаму* тэрміну перад *царкоўнаславянскім* і *расейскім.*

3) Не падабаюцца рэцэнзэнту таксама *»няўдалыя таўталягічныя выражэньні* »пісьменства ў *нацыянальнай*[6] беларускай мове«. Мова кожнага народу, — паводля яго, — ягоная »нацыянальная« мова. Калі мова беларуская, дык яна само сабой і »нацыянальная« (б. 142).

Гэта толькі так здаецца рэцэнзэнту. Але ёсьць такая навука — мовазнаўства, і ў ім пра адну й тую-ж мову ёсьць розныя паняцьці й тэрміны. Як і ў кожнай іншай, у беларускай мове яно разрозьнівае *народную,* дыялектную мову ў мностве ейных тэрытарыяльных гаворак ад *літаратурнае,* агульнанацыянальнае. У гэтым артыкуле, у нашых увагах да беларускага пісьменства арабіцай, мы двойчы ўжылі тэрмін »*народная* беларуская мова«, дзе слова »нацыянальная«, заміж »народная«, паставіць нельга.[7] Зноўжа, у беларускім пісьменстве X-XVIII ст. ст. было колькі літаратурных моваў: царкоўныя (царкоўнаславянская й лацінская) і старабеларуская. Усе яны — мовы беларускага пісьменства (іншы раз у філялягічнай літаратуры, датычнай беларускага пісьменства, называныя беларускімі літаратурнымі мовамі). Каб дакладней адрозьніць і падкрэсьліць, што нішчыліся помнікі беларускага пісьменства галоўна ў *нацыянальнай* мове, а не ў царкоўнаславянскай ці лацінскай, мы й ужылі выраз »нацыянальная беларуская мова«.

Калі ўжо гаворка пра тэрміналёгію, то да сказанага можна было-б дадаць, што ёсьць і горшыя выпадкі. Дазволім сабе »зьвярнуць увагу« паважанаму рэцэнзэнту (аднаму із сяброў рэдакцыйнае калегіі »Запісаў«), што філялягічная тэрміналёгія ў »Запісах« часам не на ўзроўні, калі на ейных балонках ужываюцца тэрміны бяз веданьня іхнага значаньня; як, прыкладам, і ў гэтым № 13 на б. 5, дзе аўтар навуковай публікацыі ня можа дзеля таго адрозьніць у слове канчатка ад суфікса.[8]

. . . А наагул было-б лепей, каб на філялягічныя працы рэцэнзіі ў »Запісах« пісалі філёлягі, асобы, знаёмыя з прадметам і матар'ялам рэцэнзаванае працы.

*А. Калубовіч*

---

5) Гл., прыкладам, »Беларуская савецкая энцыклапедыя«, т. 10, 1974, Мінск, б. 574, і інш. публікацыі.

6) Тут падкрэсьленьне рэцэнзэнта.

7) У савецкім мовазнаўстве выраз »беларуская нацыянальная мова« ўжываецца яшчэ й як тэрмін для мовы беларускае нацыі XIX-XX ст. ст. у вадрозьненьне ад мовы беларускае »народнасьці« XIII-XVIII ст. ст. (Гл. »Фарміраванне беларускай нацыянальнай мовы« — »Нарысы па гісторыі беларускай мовы«, АН БССР, Мінск, 1975, бб. 15-17). Але нас не абавязвае »марксыцка-ленінскае« азначэньне нацыі й зьвязаныя зь ім тэрміны.

8) У слове »Федаровіч« **-овіч** — не канчатак, як тлумачыць аўтар, а два суфіксы, **-ов** і **-іч.**

25 чэрвеня 1976 г.
Стэмфорд, Конн.

## У РЭДАКЦЫЮ ЧАСОПІСУ »БОЖЫМ ШЛЯХАМ«

Высокапаважаны Спадару Рэдактар!

Перасылаю Вам ліст у рэдакцыю з просьбаю аб эвэнтуальнае зьмяшчэньне яго ў часопісе.

Калі-б гэта было немагчымым ветліва прашу Вас, як найхутчэй, мяне паведаміць.

З глыбокай пашанай
L. Halak
56 Lockwood Ave.
Stamford Rd. Conn. U.S.A.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

Ліст у рэдакцыю.

У № 3 — ім, III-га тому, выдаванага ў Лёндане часапіса The Journal of Byelorussian Studies зьмешчана рэцэнзыя на кнігу аўтарства Валянтыны Пашкевіч — "Fundamental Byelorussian", Book 1", напісаная J. Dingley.

Ня будучы спэцыялістам — лінгвінтам ня магу забіраць голасу адносна вузка лінгвістычных праблемаў, аднак некаторыя справы парушаныя у ягонай рэцэнзыі выходзяць паза абшар чыстай лінгвістыкі і гэта упаважняе мяне да заняцьця станоўішча адносна вышэй успомненых справаў. J. Dingley піша, што зьмешчанай у кнізе літары »г« ня было ў граматыцы Браніслава Тарашкевіча. Гэта не цалком так. У першым выданьні граматыкі Б. Тарашкевіча, якую я, як вучань, ужываў у 1922 годзе літара »г« была. Граматыка гэтая была выдана хіба у 1918 годзе у выдавецтве Б. Клецкіна ў Вільні, на зялёнкавай паперы.

Я асабіста думаю, што літара гэтая неабходная і ужываньне яе павінна быць нават пашырана, у першую чаргу на словы грэцкага ці лацінскага паходжаньня, у якіх гэтая літара выступае, каб не занадта адрывацца ад арыгінальнага гучаньня слова. Возьмем напр. словы "geo", "galo", "gen", "grafeo" і іншыя, а таксама у назовах небеларускіх гарадоў, краінаў, у чужаземных прозьвішчах і г. д.

Нельга згадзіцца з цьверджаньнем J. Dingley, што В. Пашкевіч неправільна ужыла назоў горада Вільні. Вільня называлася Вільняй ад самага яе заснаваньня і ня гледзячы, што расейскія акупанты ужывалі назоў »Вильна«, польскія акупанты ужывалі назоў "Wilno", гэта ніколі не перашкаджала ужываньню Беларусамі правільнага назову — Вільня. Пачынаючы ад старых хронікаў, летапісаў і канчаючы нашымі часамі — нідзе ў беларускай мове ня было іншай формы. Цяпер праўда расейскія акупанты змушаюць ужываць у беларускай мове форму »Вільнюс«, калі гэта адносіцца да часу пасьля Другой вайны, адносна-ж часу перад Другой вайною дык і цяпер ужываецца форма Вільня. J. Dingley можа быць пэўны, што ужываньне формы Вільнюс не вынікае з арганічнага развіцьця беларускай мовы, а з расейскай палітыкі.

Ніхто у адрожненьні ад J. Dingley ня будзе мець ніякіх сумліваў, дзе знаходзіцца Вільня, бо Беларусы не стаўляюць знаку раўнаньня паміж Беларусяй і БССР, а што Вільня ляжыць на беларускай этнаграфічнай тэрыторыі не выклікае ніякіх сумліваў.

Зробім аналёгію: Ірляндыя, калі была пад ангельскай акупацыяй усёроўна была Ірляндыяй, а не Англіяй.

Выглядае аднак, нажаль, што нават прыхільныя да Беларусоў чужаземцы не ў стане зразумець праблемы, а падыходзяць да яе фармалістычна.

**Л. Галяк**

—*—

**К. ЯРШАТНІК**

# РАНІЦА НАД НЁМАНАМ

*(З цыклю успамінаў)*

Двадцатага сьнежня 1929 г. мы закончылі навуку ў гаспадарскай школе ў Кашалеве. На выпускны дзень прыехаў стараста з Наваградка К. Грыневіч, ён-жа быў пачэсным апякуном школы і ён выдаў нам школьныя атэстаты. Адбывалася усё гэта вечарам пры поўным асьвятленьні школьнай залі.

Уручыўшы апошняе пасьведчаньне падняўся дырэктар нашай школы і сказаў:

— А цяпер, панове студэнты, пойдзем на разьвітальную вячэру. І запрасіў усіх гасьцей прысутных на гэнай цырымоніі.

Было мне дзіўным »панове студэнты«! Увесь час звалі нас толькі вучнямі, а тут раптам »панове студэнты«!

Пасьля вячэры ўсе пайшлі ў тэатральную школьную залю на гулі, дзе ўжо грала духавая аркестра паліцыі з Наваградка. Гулянка трывала амаль да раньня. Мы цешыліся, бо-ж ужо студэнты і атрымалі пасьведчаньні сьпеласьці. Але пры развітаньні якжа было сумна і цяжка на сэрцы! Было ў школе ўсяляк: і добра і дрэнна. Называлі нас »хахламі« няраз, але за ўвесь школьны час зжыліся і разьвітывацца было цяжка. Кожны з нас штосьці ўпісываў другому ў памятную кніжачку. Помню як сяньня, Алесь мне ўпісаў:

— Як пакінеш школьны лавы
І ў далёкі пойдзеш сьвет,
Ўспомні, ўспомні пра сяброўства
Нашых школьных лет!

Штосьці і я яму ўпісаў, але што — ня помню. Я толькі заўважыў, калі ён прачытаў — прасьлязіўся . . .

На разьвітаньне зрабілі супольны здымак з усімі настаўнікамі. І раз'ехаліся. Дырэктар абяцаў кожнаму перасланць здымкі. Вельмі шкода, што ў час апошняй ваеннай завірухі загінуў мой здымак. Што-ж, не да парасят сьвіні, калі яе смаляць.

Дзесь пятага ці дзесятага сакавіка атрымаў я ліст ад князя Мірскага з Міра, які прапанаваў мне працу ў сваім маёнтку — заняткі аканома. Прыняў я гэта з вялікай радасьцю, бо ў той час у Польшчы было вялікае беспрацоўе. Назаўтра старшы мой брат адвёз мяне канём. Дарога была каля 60 кілямэтраў.

Князь прыняў мяне вельмі міла. Здаецца ён пачуваў сябе беларусам. Прыступіў я да працы з усей ахвотай і шчырасьцю. Сунуў нават свой нос туды, дзе не было ніякай патрэбы і то, абы толькі дагадзіць князю і не страціць працы. На каталіцкія Зялёныя



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

Сьвяткі (на Сёмуху) князь даў мне тры дні вольных ад працы. Ад Міра не было далёка да Ярэміч, а там жыў мой сябра па школе Алесь і яго сястра, якую спадзяваўся застаць дома. Таму й накіраваўся да іх. Крыху раней дагаварыўся спаткацца з Алесям лістоўна. Бацька не выпускаў яго з дому на ніякую працу. Ён казаў:

— Наша гаспадарка даволі вялікая. Не дзеля таго я цябе вучыў, каб ты валачыўся па чужых. Працуй на сваім. Ты ў нас адзін і нам хопіць.

Паехаў я на сваім самакаце. Вунь да чаго я ўжо дажыўся!..

Прабудзіў мяне ціхі але настойлівы стук у вакно. Паміма волі глянуў на гадзіньнік, што воўчымі вачыма сьвяціўся ў цемры. Стрэлкі паказывалі палова трэцяй. Пабег да дзьвярэй пляскуючы босымі нагамі па глінянай падлозе.

— Пойдзем ці не? пытаньнем сустрэў мяне на ганку Пятро Лапко.

— Разумеецца пойдзем. Кліч Бушму, а я падыму Алеся.

Зборы былі кароткімі. Праз поўгадзіны ўсе рыбаловы з рыбацкімі снасьцямі подбегам спыніліся ля дому Паўлы Бушмы. На стук выйшаў Павал.

— Куды вы ў такую рань?

— На рэчку ў Воплытку на рыбу, басам адказаў Пятрусь. Дай нам ключ ад лодкі.

— То й мяне з сабой вазьмеце!

— Калі ласка, але пасьпяшайся!

— Ды я за хвілінку! І Павал зьнік у сенцах.

Лодка Паўлы невялікая і прышлося нам зрабіць два рэйсы перш чымся мы высадзіліся на процiўлеглым беразе ў густым лазьняку, які пераблытываўся з пякучай крапівой у нізу, а ў версе быў пераплецены ўчэпістамі ліянамі дзікога хмелю. За прыбярэжнымі »джунглямі« раскінулася шырокая лугавіна...

Разам з сябрамі пайшоў я на сустрач сонцу, што за якуюсь гадзіну мелася выкаціцца із-за небасхілу, якога цяпер нельга было разгледзіць дзеля разлітага над зямлёй сівога туману. Высокая трава чаплялася за ногі і перашкаджала ісьці. Пасьля якіх сотні дзьве крокаў адчуваю пранізьлівую вільгаць у каленях. Адзеньне набрыяла ад расы і пачало прыліпаць да цела. Лішак вільгаці сьцякаў у боты, але гэта зусім ня псула майго настрою. Я толькі як мага вышэй падымаю вудзільнішча.

Паласа лугавіны паміж лесам і абрывістым берегам Нёману ўсё больш пашыраецца. Рыбакі, каб ахапіць увесь рыбалоўны засяг, разыходзяцца далей і далей адзін ад другога. Сваіх сяброў я бачу якіх мэтраў дваццаць ад мяне па левай і правай старане. У запраўднасьці я бачу толькі верхнія паловы іхніх постацяў, якія нібы плывуць на лёгка ўсхвалёванай паверхні пачынаючага радзець туману. Хутка Алесь, які йшоў злева, зусім знік. Каб не загубіцца і не астацца самому ў малазнаёмых мясьцінах, я міжвольна набліжаюся да Пятруся. Аднекуль здалёк даносяцца перадаваныя туманам першыя галасы кліканьня. Дзее... тыы? Га? І тут-жа з-пад куста шыпшыны выскачыў здаравенны русак і лянотна зачыкільгаў ускідваючы над травой свае доўгія вушы. Я свіснуў яму ўслед. Эх, каб у мяне замест вуды ды стрэльба, бяда была-б з табой касавокі!

Хаця мы разышліся шырока, каб ня збіцца ў кучу, аднак пры густым тумане змылілі напрамак і пайшлі крывой дугой. Азірнуўся. Непадалёк убачыў Алеся, які памахаў рукой. За невысокімі кустамі была і тая азярына, якой мы шукалі. Вось гэта і была Воплытка, тут мусяць абавязкава быць шчупакі!

— Бачыш і знаёмая мясьціна, кажу шопатам Алесю. А што гэты туман нам нарабіў! Столькі цягаліся без патрэбы.

Мы пачалі скрадацца да вады мінаючы кусьцікі. Праз некалькі хвілін ад берагу з лопатам крыл і гучнымі крыкамі матак узляцела стада вывадак крыжных качак. Падыйшоўшы бліжэй да возера я закінуў бліскотку (рыба з бліскучай бляшкі с кручкамі, каб ашукаць шчупака). Пасьля некалькі кідкоў падчапіў і я здаравеннага шчупака, каля двох кіляграмаў вагі.

Алесь меў большае шчасьце; ён зачапіў двох амаль такіх самых. Узяўшы з сабой першыя трафеі мы пайшлі разам, каб адшукаць іншых сяброў і каб агледзіць чарговую старыцу ці вазёрца.

Кожны з нас ужо меў па некалькі важных шчупакоў.

Ад месца пераправы мы знаходзіліся на некалькі кілямэтраў і прыбліжыўшыся да берагу Нёмана, прыселі над абрывам, каб адпачыць і каб менш для жанчын было хлапотаў дома, паскраблі і памылі рыбу. І на небасхіле панад сіняй стужкай Налібоцкай пушчы, раптам на небе пырснулі залатыя праменьні сонца. Пакрыва туману зрабілася празрыстай, развеялася, адступіла ў зарасьнікі лазьняку. Зазіхацела align рознацветам раса на сьцяблінках травы і на лістоце кустоў. Сонца ўзнялося высака над поймай, пякло бязлітасна.

Наша вопратка даўно прамокшы ад раняшняй расы, цяпер пачала ліпнуць да спацелых плячэй, боты на нагах здаваліся пудавымі. Прыкметна адчувалася стома і мы з палёгкай уздыхнулі, калі спыніліся на панадворку Алеся.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

— Дзе валачыліся яршатнікі?! — з гарычай сустрэла нас сястра і то хіба таму, што не ўзялі яе з сабой.

— Чуеце? Ужо ў цэркву звоняць, прадаўжала яна. Хадзеце аладкі есьць і пойдзем у царкву! Была-бо нядзеля. Яна яшчэ раз зкоса глянула на нас.

— А вот даражэнькая і памылілася, адказаў Алесь. І не яршатнікі а шчупачнікі! Абед будзе ў нас панскі!

Аўстралія, 1975. ●

---

**К. Ч.**

# АРЫШТ

*(З цыклю успамінаў)*

Не прайшло яшчэ і поўгода ад часу, калі »браты« вызвалілі нас ад польскага гнёту і ўжо пайшлі чуткі, што »благонадзёжных« пачалі падмятаць! Аднойчы прыйшоў мой цесьць з пасядушкаў (я жыў у ягонай хаце) і кажа:

— Учора з Вераскава а поўначы забралі дзесяць сем'яў, а ўсе-ж гаспадары, ня больш. Думаю, што хутка дабяруцца і да нас!

— Так, тата, я адказаў. Ты церкоўны стараста, а я сьпяваю з жонкай у хоры, дык нас гэта не амінець . . . Трэба спадзявацца. Трэба быць гатовымі кожнай хвіліны да прыняцьця »гасьцей«.

— Вось што я вам скажу жанчыны — заявіў цесьць — каб ад сяньня было у вас усё на пагатове ў дарогу з вопраткі, з еміны. Насушыце хлебных сухароў, бо іх можна будзе больш захапіць.

Так мы й былі напагатове ў кожную хвіліну.

Хтосьці нахлусіў на мяне, хаця я й не зрабіў нічога дрэннага супроць »братоў« і я трапіў пад арышт. Мая цешча Вера прынасіла мне ў каморку палова восьмай раніцай сьнеданьне, каб я мог пасьпець на гадзіну восьмую на працу. Жонка была ў шпіталі. Аднаго дня цешча не зьявілася. Такога выпадку яшчэ не здаралася. Я крыху пачакаў, паглядзеў з хаты на бабульку, якая жыла насупраць. Яна ўглядалася на мяне з нейкай незвычайнай цікавасьцю, што зусім не было ў яе натуры. Пачуўшы ў сабе і голад і зьдзіўленьне, я крыкнуў:

— Мама!

У тую хвіліну пачуўся стук і ў сьвятліцу ўвайшоў нейкі чалавек. Раней я яго ніколі ня бачыў. Быў ён хударлявы, але моцна зложаны, з фасонам апрануты, на шырокім рэмні з наганам праз плячо. На шапцы чырвоная зорка.

— Вы хто такі? — спытаў я і прыпадняўся з ложка.

Але той нічога не адказаў і быццам ягонае зьяўленьне было ў штодзённым парадку. Ён толькі запытаў:

— Вы клікалі?

— Хай цешча прынясе мне сьнеданьне — сказаў я і пачаў моўчкі раглядаць гэтага чалавека, стараючыся пранікнуць у яго, каб неяк зразумець: хто-ж ён такі ў запраўднасьці?!

Ну той не даўся, каб яго раглядаў. Падыйшоў да дзьвярэй, крыху іх адчыніў і камусьці, бачна стоячаму за парогам, сказаў:

— Ён хоча, каб цешча падала яму сьнеданьне! . . .

З кухні пачуўся кароткі рогат. Цяжка было разабрацца адзін там чалавек, ці іх некалькі. Хаця незнаёмы нічога не пачуў з кухні для сябе новага, афіцыяльным тонам заявіў:

— Гэта не належыцца!

— Вот яшчэ навасьць! — адказаў я, саскочыў з ложка й пасьпешна нацягнуў порткі. Пабачым, што там за людзі ў кухні!

Аднак я дагадаўся, што няварта было выказываць сваіх думак услух. Зразумеў мяне і незнаёмы, які сказаў:

— Ці ня лепш астацца вам тут?

— Не астануся і не жадаю з вамі гутарыць, пакуль вы не скажыце: хто вы такі? — настаіваў я.

— Дарэмна гневаецеся, сказаў незнаёмы і сам адчыніў дзьверы.

У кухні, куды йшоў я паволі, таксама знайходзіўся чалавек зусім мне незнаёмы. Сядзеў ён ля адчыненага вакна і ў яго вялікая папка. Хутка ён заявіў:

— Вам выпадала-б сядзець у пакоі! Ці-ж Пятроў нічога вам не сказаў?

— Ды што вам трэба ў канцы-канцоў? — зьвярнуўся я да абодвых. Вось спытаю цешчу, каб даведацца, што тут тварыцца?!

І хаця стаяў воддаль ад іх, ну зрабіў жэст, быццам хацеў вырвацца з іхніх рук і ўжо йшоў з кухні ў сені.

Нет! — гукнуў той седзячы ля вакна, кінуў папку на стол і ўстаў.

— Вам не дазваляецца адыходзіць. Вы арыштованы!

— Яно так выглядае . . . — сказаў я і дадаў: А за што? . . .

— Мы не ўпаважненыя даваць паясьненьні. Ідзіце ў свой пакой і чакайце. Справа



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

ваша пачалася і ў сваім часе аб усім даведаецеся. Я і так нарушыў парадак гутарычы з вамі па сяброўску. Калі вам і далей гэтак пашанцуе, як пашанцавала з назначэньнем для вас стражы, то можыце моцна не беспакоіцца.

Другі быў вышейшага росту ад мяне. Усьцяж палопваў мяне на плячу. Абмацывалі маю начную кашулю і казалі, што прыдзецца цяпер адзець куды горшую кашулю, ну гэтай кашуляй і ўсей вопраткай яны заапякуюцца . . . А калі »дело пойдет к лутшему«, то ўсё мне вернуць.

— Лепш аддайце нам рэчы ў перахаваньне, казалі яны. Бо ў перахавальні рэчы заменьваюць, а пасьля пэўнага часу іх раскрадываюць, незалежна ад таго, ці справа скончылася ці не. А вы ведаеце — чамусьці цэлы час гаварылі да мяне на »вы« — як доўга ўсё гэта цягнецца, асабліва сяньня!

А мне было не да таго, каб задумывацца, што станецца з маімі собскімі рэчамі, калі ня мог сьцяміць, што будзе са мной. Той другі ўвесь час штурхаў мяне сваім быццам у жанчыны бярэмянным жыватом. Хто-ж гэтыя людзі? Аб чым вядуць толкі? Ад якой управы? Я-ж жыву ў дзяржаве, дзе ўсё ўзаконенна, а не пад гнётам Польшчы! Цяпер нам гавораць, што законы непахісныя, замацаваныя Сталінскай канстытуцыяй. Хто-ж сьмеў-бы нападаць на мяне ў белы дзень у маім собскім памешканьні?

— Пазвольце, сказаў я і хутка пайшоў у пярэднюю. Стаў выцягаваць шуфляды са стала і шукаць асабісты дакумант, але ад хваляваньня нічога ня мог знайсьці. Наканец знайшоў пасьведку на самакат. Хацеў сунуцца з ей, але куды ты з гэтым — падумаў і паруся ў рэчах далей. Наканец знайшоў мэтрыку народжаньня. Узяў і стаю сярод хаты, ўглядаючыся ў дзверы. Чую галасы маіх старажылаў. Ня вытрымаў — адчыніў дзьверы ў кухню. Яны сядзяць раскошна, пажыраюць маё сьнеданьне: яечню з каўбасой. Грубымі лустамі рэжуць учора толькі цешчай сьпечаны жытні хлеб.

— Чаму не прышла цешча? — спытаў я.

— Не дазваляецца — адказаў тоўсты. Вы арыштаваны, а яна няхай пашпацэруе па вуліцы. І ехідна усьміхнуўся.

— Як гэта арыштаваны? Ці-ж так яно робіцца?

— Зноў вы сваё! — сказаў той і тыцнуў хлеб у місачку з мёдам. Мы на такія пытаньні не адказываем.

— Прыдзецца адказаць, набраўшы нейкай сьмеласьці сказаў я. Вось мае дакуманты, а пакажыце вашы, а перадусім загад на арышт.

— Дзівы ў рэшаце! — сказаў тоўсты і аблізаў пальцы, па якіх цёк мёд.

— Чаму вы ня можыце зразумець вашага паложаньня: вы ўжо пад Савецкім Саюзам, а не пад гнілой Польшчай. Мы-ж вам сяньня найбліжэйшыя людзі на сьвеце. Ужо час гэта ўцяміць . . .

— Вось мае дакуманты!

— Ды якое нам да іх дзела! — закрычаў тоўсты. Вы захоўваецеся проста як дзіця. Чаго вы хочыце? Ня-ўжо вы думаеце, што ўсё гэта закончыцца з вамі хутчэй, калі вы пачнеце з намі спрэчку пра дакуманты, пра загад на арышт? Мы ніжэйшыя чыны і ў дакумантах амаль не кумекаем, наша справа пільнаваць вас і за гэта мець зар-плату. Ясна, вышэйшая ўлада разьбіраецца і яна ведае каго арыштаваць. Там памылак не бывае! Такі закон! Там знаюць усё! Памылкі — немагчыма!

— Я такога закону ня знаю, — сказаў ім.

— Горш для вас — сказаў тоўсты і лізнуў мёд з нажа. Вы былі пад гнілой Польшчай, якая трымала вас у цемры і таму ня знаеце законаў.

— Ды гэта вы толькі і знаеце паўтараць: гнілая Польшча!

— Хутка вы наш закон на сабе пазнаеце — сказаў адрывіста тоўсты.

Тут умяшаўся Пятроў:

— Вось бачыш, таварыш Смірноў, ён прызнаецца, што ня знае закона, і цьвердзіць пры гэтым, што невінаваты . . .

— Кажаш праўду, але яму ня выясьніш. Цямната! — сказаў той.

— Вядзіце мяне да вашага начальства — я заявіў.

— Не раней, чымся яно гэтага зажадае — адказаў той Смірноў. А цяпер — ён дадаў — я вам раджу пайсьці ў свой пакой (усё дагэтуль адбывалася ў кухні) і чакаць. І яшчэ адна рада: ня уздумайце уцякаць праз вакно, бо ўсё дарэмна, за межы Савецкага Саюза не ўцячыцё. Знойдуць. І на гэта ёсьць свае законы. Будзе куды горш. Сабярыце вашыя думкі, бо вам прыдзецца шмат адказываць . . .

— Што гэта значыць? Першае, я працую загадчыкам сельпо, мне трэба йсьці на працу. Другое: і вы гэта мусіце ведаць, што спазьненьне на пяць хвілін лічыцца за прагул, а мы тут ужо поўгадзіны таўчом ваду ў ступе і за гэта мяне па галоўцы не пагладзяць. Трэцяе . . .

— Трэцяе — і тут перабіў мяне тоўсты — начальству будзе ведама па чым вас пагладзіць. Яно за гэта і адказывае. Вам безкарысна турбавацца.

Я крыху пастаяў. Не адказаў больш ні адным словам. Увайшоў у сваю каморку, адчыніў вакно, абапёрся на ім локцямі і глядзеў на наш Нёман. Па ім гналі плыты. Там



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

быў і мой цесьць. Прышла на думку цудоўная песьня:

— Ах ты Нёман рака,
Ці ты думаў, ці сьніў?
Як сьлязу мужыка,
Ў свае хвалі лавіў.

Як з балючых грудзей,
Беларусі дзяцей,
На ўвесь сьвет загудзе,
Песьня вольных людзей!...

Ну, а я вольны ці не? Што маю рабіць? Я-ж зусім невінаваты!

Пачуліся крокі на дварэ. Нікога ня бачу. Толькі крык з кухні:

— Вас клічуць да інспектара!

Агарнуў мяне несамавіты сполах, аж залязгалі зубы. Я ўвайшоў у кухню. Там убачыў яшчэ аднаго ў форме міліцыянера з наганам у руцэ. Ён і сказаў:

— У сьлед за мной!

Я апынуўся ў сярэдзіне. Міліцыянер першы, а двох за мной. І павялі мяне быццам нейкага барына ў сельсавет, а гэты знаходзіўся ў доме нашага сьвятара айца Аношкі. Яго адтуль выселелі.

Па сярэдзіне вялікага пакою, дзе калісь мы зьбіраліся на рэлігійныя гутаркі з войчанькам, стаяў даўгі стол пакрыты чырвонай посьцілкай і за ім сядзеў хіба-ж той інспектар. У яго пад сталом ногі на крыж, адна рука абапёртая на пярэчку крэсла, а другой увесь час круціў сваю невялічкую рыжую бародку. Міжвольна прышло на думку: вось каму прышлося паганьбіць крэсла нашага дарагога айца!

— Кастусь Чабатар? — запытаў інспектар і то дзеля таго толькі, каб скіраваць на сябе мой разсеяны пагляд.

Я схіліў галаву.

— Хіба вас зьдзівіла сяньняшняе раньне? — сказаў інспектар і прысунуў бліжэй да сябе аб'емістую картатэку.

— Разумеецца — я адказаў. Я зьдзіўлены прызнацца ня вельмі...

— Ня вельмі? — і пачаў разглядаць маю мэтрыку.

— Магчыма вы таварыш...

— Нет! Я вам не таварищ, а гражданін!

— Выбачце гражданін! Магчыма вы мяне дрэнна зразумелі. Я толькі хацеў сказаць... Тут я асекся і кінуў вокам па пакоі, каб на чымсь прысесьці.

— Магу сесьць? — спытаў я.

— Не! Гэта не дазваляецца — адказаў інспектар.

— Я толькі хацеў сказаць — стараўся я дайсьці да ладу са сваімі думкамі — што мы зьдзіўленыя. Вы працягнулі нам братнюю руку, высвабадзілі з пад польскага гнёту, а тут на табе! Але пражыўшы трыцатку, ды яшчэ так як было са мной, што саматугам самому трэба было прабівацца ў жыцьцё, дык да ўсяго прывыкаеш... Мне здаецца, што мяне ў чымсьці абвіняюць, але я не пачуваюся да найменшай віны. Хацеў-бы ведаць: хто мяне абвіняе?

Дагэтуль інспектар уткнуўшы нос у мае дакуманты штосьці ў іх вышуковываў. Раптам кінуў іх са злосьцю і зьвярнуўся да мяне:

— Вы моцна памыляецеся і не званіце мне ў вушы пра сваю нявіннасьць! Усё, што вы тут гаварылі — ды да таго вашыя паводзіны — на карысьць вам ня выйдзе!

— Наш сьвятар Аношка добра мяне знае. Можна мне яго паклікаць?

— Чаму не?! — сказаў інспектар, толькі на што ён вам, хіба што вы захацелі выспавядацца?... І тут ён іранічна зарагатаў, што падхапілі таксама іншыя.

— На што ён мне? — крыкнуў я хутчэй перапалоханы чымся са злосьцю. Ды тут камяньні загалосяць! Перш »граждане« на мяне напалі, а цяпер стаяць і прыглядаюцца, як я скачу пад вашу дудку. І вы пытаеце, ці дарэчна паклікаць айца Аношку, калі самі кажыце, што я арыштаваны! Сьвятар, які мяне добра знае, можа пацьвердзіць маю нявіннасьць...

— Ды чаму-ж не? — сказаў крыху зьбянтэжана інспектар. Клічце!

Але тут раптам затурчэў тэлефон, які стаяў у яго на стале. Схваціў трубку.

— Да! да! слухаю... А, а, а! Пятровіч? Не! Тут Міхайлавіч і палажыў трубку на апарат. І дапытлівым позіркам акінуў тых трох.

— Ну, гражданін — сказаў я — маё дзела закончана і мірна можам разысьціся.

— Як проста ўсё гэта для вас! — адказаў інспектар. Мірна разыйсьціся? Не, так ня будзе! Но вы не падайце ў паніку. Вы толькі арыштаваны і больш нічога! Мы можам на нейкі час разьвітацца. Магчыма вы пашлі-б у сельпо?

— Арыштаваны і ў сельпо? Ізноў вырвалася ў мяне.

— Вось яно як! — сказаў інспектар падняўшыся ужо з крэсла. Значыць вы мяне не зразумелі. Вы арыштаваны, але-ж гэта не павінна перашкаджаць выпаўняць вам абавязкі. Ды-й наагул вы павінны весьці нармальнае жыцьцё. Ды мы яшчэ спаткаемся!...

— Ну, дык дайце пасьведку, што я дзеля вас спазьніўся на дзьве гадзіны на работу. А то, вы самі ведаеце...

— Да, да... Ведаю, ведаю! Але мы чагось



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

## З ВЫДАВЕЦКАЙ НІВЫ

*Тут падаём толькі некаторыя кнігі або часапісы, якія ў апошніх гадах паявіліся, а якія маюць цесную сувязь з беларускай культурай.*

*А. Д-ка*

*В. И. Лукьяненко, КАТАЛОГ БЕЛОРУССКИХ ИЗДАНИЙ КИРИЛЛОВСКОГО ШРИФТА XVI-XVII В. В.,* Выпуск I (1523-1600 гг.), Ленинград, 1973, сс. 196. — Вып. 2 (1601-1654 гг.), Ленинград, 1975, сс. 266. — Издание Государственной публічной библиотеки им. М. Е. Салтыкова-Щедрина. Ротапринт. —

У гэтых дзьвёх частках апісана з вялікай дакладнасьцю 114 беларускіх старадрукаў, якія знаходзяцца ў дзяржаўнай бібліятэцы імя Салтыкова-Щедрына, пачынаючы ад 1523 г. да 1654 г.

Тут трэба зрабіць вельмі важную заўвагу: В. И. Лукьяненко ведала аб артыкуле а. А. Надсона, надрукаваным у »Божым Шляху«, 1971, нр. 5 (128), с. 9-11: »Кніга Скарыны ў Капэнгагене«, у якім установлена на падставе знойдзенай *Пасхаліі,* што *Малая падарожная кніжка* выйшла з друку ў Вільні перад Калядамі 1922, — аднак пачынаючы апісаньне беларускіх старадрукаў ад гэтай кніжкі (Вып. I, с. 20, нр. I) падае ўсёжтакі год яе выхаду »ок. 1523«. Што гэта мае азначаць »окала 1523«? Вось гэта і ёсьць найважнейшай хібай ува ўспомненай працы, *бо-ж ад яе залежыць устанаўленьне даты выхаду ў сьвет першай беларускай кнігі на гістарычнай тэрыторыі Беларусі.*

Аднак трэба прызнаць, што праца В. І. Лукьяненкі ёсьць вельмі вартаснай, бо, хаця яна каталягуе старадрукі аднэй толькі бібліятэкі імя Салтыкова-Щэдрына ў Ленінградзе, апісывае вялікую іх колькасьць, з якіх некаторыя наагул першы раз уведзеныя ў каталёг, а іншыя удакладненыя што да даты і месца выхаду ў сьвет.

Шкада толькі, што такая праца зьявілася ў ратапарным выданьні і што яе тыраж гэтак сьмешна малы: І-ай часткі толькі 100, 2-ой толькі 200 эгзэмпляраў!

---

падобнага не выдаём. Там скажыце, што Мядзьведзеў вас выклікаў. Хопіць. Бывайце пакуль-што!

Тых трое, што стаялі ля дзьвярэй, пастараніліся. Я выйшаў. Я ад усей душы дзякаваў БОГУ, што я з ім больш не спаткаўся!

Аўстралія, Альбані,
1976

---

*М. К. Клышка, СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ І БЛІЗКАЗНАЧНЫХ СЛОЎ.* Выд-ва »Вышэйшая Школа«, Мінск, 1976, сс. 592. Тыраж 8.000 эгз.

Як сам аўтар ва ўступе да Слоўніка піша: »Гэтая кніга — першая спроба слоўніка сінонімаў і блізказначных слоў беларускай мовы . . .« (с. 5) — ёсьць запраўды першай, хаця дагэтуль выйшаўшых у сьвет — асабліва расейска-беларускіх слоўнікаў — у нас хапае. У Слоўніку Клышкі пададзена каля 1900 сінанімічных радоў з больш як 11.000 слоў і выразаў. Вельмі важна і тое, што апрача сінонімаў, падаюцца цэлыя сказы з літаратурнай мовы як прыклады. Для ілюстрацыі падамо са слоўніка слова *Бацькаўшчына,* яго сінанімы і прыклады (с. 59):

БАЦЬКАЎШЧЫНА, РАДЗІДА, АЙЧЫНА РОДНЫ КРАЙ, СВОЙ КРАЙ, НАШ КРАЙ, РОДНАЯ КРАІНА, СВАЯ КРАІНА.

Слава *бацькаўшчыне* нашай і яе народам! Я. Купала.

Ці ёсьць такая яшчэ другая, як ты, мая *Радзіма дарагая?!* Я. Пушча.

Паў за *айчыну* любую салдат... А. Зарыцкі.

О *край родны,* край прыгожы, мілы кут маіх дзядоў! Я. Колас. І г. д.

Язэп Малецкі, *Пад Знакам Пагоні. Успаміны.* Выд-ва »Пагоня«, Таронта, 1976, сс. 199.

Кніга Малецкага належыць да жанру мэмуарнай літаратуры. Успаміны аднак пастолькі становяцца цэннымі, паколькі адказываюць праўдзе. Аўтар заявіў: »Калі пісаў, ніколі ня мінаўся з праўдай, ці гэта будзе каму падабацца ці не!« Але тут дзеюць шматлікія абставіны: інтэлігенцыя, памяць аўтара, яго удзел асабісты ў выпадках, або апісаваны толькі са слыху... Кніга Малецкага ўжо дачакалася пахвалы і крытыкі (глядзі »Летапіс«, 1976, Нр. II; »Беларус«, жнівень 1976, Нр. 232). Усё гэта няхай заахвоціць іншых да напісаньня падобных кніг да »Пад Знакам »Пагоні«, бо мэмуарнай літаратуры ў нас вельмі скупа, асабліва пра часы нямецкай акупацыі Беларусі, што і ёсьць галоўным зьместам кнігі др. Я. Малецкага.

*Peter J. Mayo, A GRAMMAR OF BYELORUSSIAN.* Published by Anglo-Byelorussian Society in association with the Department of Russian and Slavonic Studies, University of Sheffield, 1976, сс. 76.

Праца П. Я. Мэё, лектара параўнаўчай славянскай філялёгіі на Унівэрсытэце ў Шэфільд, ёсьць другой — пасьля вельмі-ж кароткай граматыкі Дэ Брэя — спробай напісаньня больш абшырнай і сыстэматычнай беларускай граматыкі ў ангельскай мове. Як сам аўтар адзначыў



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

ва ўступе, ён карыстаецца параўнаўчым мэтадам і то перадусім беларускай мовы з расейскай і украінскай, якія належаць да той самай сям'і усходніх славянскіх моваў.

Праца Мэё адзначаецца яснасьцю, сыстэматычнасьцю і вонкавай ахайнасьцю. Вокладку ўпрыгожываюць гэрбы Ангельска-Беларускага Таварыства і Шэфільдскага Унівэрсытэту. Пры канцы кнігі падаецца даволі багатая бібліяграфія.

Аўтар успомніў, але не падаў альфабату беларускай лацініцы, ў якой шмат напісана беларускіх твораў, а якая й дагэтуль на эміграцыі, як у прыватнай карэспандэнцыі, так і ў друку ўжываецца.

Аўтар у бібліяграфіі не падаў некаторых слоўнікаў, асабліва расейска- і польска-беларускіх. Ён сам кажа, што многія з чужынцаў ведаюць пераважна расейскую мову, а шмат ведае такжа польскую. Таму ў наступным выданьні гэтай цэннай кніжкі бібліяграфію варта было-б павялічыць. Прапануем дадаць наступныя слоўнікі:

1) М. Байкоў і С. Некрашэвіч, *Беларуска-Расійскі Слоўнік*, Менск, 1926.
2) В. Ластоўскі, *Расійска-Крыўскі (Беларускі) Слоўнік*, Коўна, 1924.
3) Я. Станкевіч — А. Адамовіч, *Маленькі Маскоўска-Беларускі (Крывіцкі) Слоўнічак фразэолёгічны і прыказкаў*, Менск, 1944.
4) Я. Колас, К. Крапіва, П. Глебка, *Русско-Белорусскій Словарь*, Москва, 1953.
5) Н. В. Гаўрош, І. Я. Лепешаў, Ф. М. Янкоўскі, *Фразеалагічны Слоўнік*, Мінск, 1973.
6) Б. Друцкі-Падбярэскі — В. Грышкевіч, *Падручны Беларуска-Польскі Слоўнік*, Вільня, 1929.
7) A. Obrębska-Jabłońska, M. Biryła, *Podręczny Słownik Polsko-Białoruski*, Warszawa, 1962.
8) John Piatrouski, p. I, *English-White Russian Dictionary;* p. II, *White Russian-English Dictionary*, Linz, 1946.

Да ўсіх тут успомніных слоўнікаў варта было-б дадаць яшчэ адзін з найслаўнейшых І. І. Насовіча: *»Словарь Белорусскаго Наречия«*, Санктпетербург, 1870.

Мы перакананыя, што з Граматыкі Мэё будуць карыстацца нятолькі студэнты, якія робяць першыя крокі ў пазнаньні нашай мовы, але усе, хто толькі займаецца параўнаўчай славянскай філялёгіяй.

Сказаўшы ўсё гэта мы лічам, што кніга сп. Мэё ёсьць вельмі карыснай і вялікім яго асабістым асягненьнем, бо-ж ён ёсьць адзін з няшматлікіх, які знае настолькі беларускую мову, што мог асьмеліцца ўзяцца за такую працу і выканаць яе з посьпехам.

*ЗАПІСЫ*, Беларускі Інстытут Навукі і Мастацтва, Нью Ёрк, 1975, Нр. 13, сс. 160.

Зьмест: *Дасьледаваньні* — В. Тумаш, Друкарня Пётры Мсьціслаўца; Я. Запруднік, Беларусь у пару Дзяржаўных Думаў Расеі; Р. Максімовіч, Гістарычная канцэпцыя Вацлава Ластоўскага. — *Успаміны* — Варлыга, Вясельле на Лагойшчыне; Кветка Вітан, Газэта »Гоман«. — *Зацемкі* — В. Тумаш, Друкарня Цяпінскага; Р. Максімовіч, Спрэчка пра дакумэнты якіх ніколі ня было; Дзімітры Верасаў, Роздум пра музыку. — *Дакумэнты* — Я. Запруднік, Устаўныя граматы Беларускае Народнае Рэспублікі; Дыпляматычны Пашпарт Беларускае Народнае Рэспублікі з 19 красавіка 1919 г. Зьмешчаны ў арыгінале і ў ангельскім перакладзе тры Устаўныя Граматы Рады БНР. — *Кнігапіс* — У запраўднасьці ў гэтым аддзеле знаходзяцца не звычайныя рэцэнзіі, але артыкулы аб некаторых працах. Такімі ёсьць артыкул Р. Максімовіча, які зьбеларушчыў артыкул праф. Шавялёва пра размяжаваньне тэкстаў беларускіх і украінскіх перад 1569 г. (Глядзі: Журнал Бел. Студыяў, т. III, нр. 2, 1974, сс. 145-156). Да гэтай самай катэгорыі артыкулаў трэба ўлічыць рэцэнзію А. Багровіча пра працу А. Бэргман аб Антону Луцкевічу і рэцэнзію В. Кіпеля пра працу А. Калубовіча, друкаваную папярэдня ў нашым часапісе, а на якую А. Калубовіч дае ў гэтым нумары Б. Шл. адказ. — *Хранікарскія* весткі пра дзейнасьць беларускіх навукоўцаў у Канадзе: Дні беларусаведных студыяў у Аттаве, 19-27 красавіка 1975, і Сымпозіюм пра беларускую эміграцыйную літаратуру на Унівэрсытэце ў Нью Ёрку, — і навуковыя канфэрэнцыі ў горадзе Бальтыморы замыкаюць »Запісы«.

Ня маючы змогі разгледзіць дакладней »Запісаў«, мы аднак мусім сьцьвердзіць, што кожны артыкул прыносіць чытачу штосьці з нашай культуры ці гісторыі новага, цікавага і ў форме, прынятай сяньня сярод вучоных вольнага сьвету. Што некаторыя рэцэнзіі (ў асаблівасьці В. Кіпеля) выклікалі засьцярогі, гэта павінна спрычыніцца толькі да грунтаўнейшага студыюм самога прадмету.

КОЖНЫ ПРАДБАЧЛІВЫ ЧАЛАВЕК ПАВІНЕН АФОРМІЦЬ СВОЙ ТАСТАМАНТ.

КОЖНЫ БЕЛАРУС ПАТРЫЁТ ПАВІНЕН ПОМНІЦЬ АБ БЕЛАРУСКАЙ БІБЛІЯТЭЦЫ І МУЗЭЮ ІМЯ ФРАНЦІШКА СКАРЫНЫ Ў ЛЁНДАНЕ.



© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

## ЁСЬЦЬ ЧАС І ПАСЬМЯЯЦЦА . . .

Хлапчук каталік і дзяўчынка пратэстантка ў Паўночнай Ірляндыі згаварыліся пакупацца ў рэчцы, але голыя. Скінулі вопраткі. Хлапчук ўзіраецца на дзяўчынку са зьдзіўленьнем і кажа:

— Запраўды між каталікамі і пратэстантамі, як кажуць нашыя бацькі, вялікая розьніца!

*

Ў адным доме ў Ірляндыі дзеіліся нейкія страшэнныя рэчы. Ніхто ў ім ня мог затрымацца і пераначаваць. Езуіт згадзіўся, але перад гэтым заявіў: што-б з ім ня сталася ў тым доме, ён сваё жаданьне пакіне выпісанае на падошве свайго чаравіка . . .

Людзі зьдзівіліся са сьмеласьці езуіты. Адны пачалі за яго маліцца, іншыя ўсьміхаліся. На раніцы сьмялейшыя ўвайшлі ў дом. Праўда, на падлозе ляжаў зношаны чаравік. На падноску чытаюць: патрабую нумар 9! . . . А ў садзе ля дому езуіт хадзіў вольным крокам, на аднэй назе патропаны чаравік, і так адгаварываў раньнішнія малітвы . . .

*

Маладожны праз нейкі час ня мелі дзяцей. Хтосьці параіў паехаць у Рым і перад сьвятым Пятром паставіць сьвечку. Хутка пасьля радзіліся двайняты, пазьней трайняты, дый пачало заносіцца на чацьвярняты . . . Маладажоны паслалі ў Рым просьбу, каб там якнайхутчэй згасілі іхнія сьвечкі.

*

Калі спаткаліся Гітлэр і Муссоліні, Гітлэр прывітаў: »Авэ імпэратор!« Муссоліні адказаў: »Авэ імітатор!«

*

— Хто найбольшую робіць прапаганду для вуніятаў?

— Канадыйская Хмара, бо паводле яго на месяцы існуюць ня толькі вуніяцкія сьвятыні, але і корчмы!

—*—

УПРАВА Беларускай Бібліятэкі і Музэю імя Францішка Скарыны ў Лёндане зьвяртаецца да суродзічаў з просьбай прысылаць беларускія цэннасьці, як манэты, рукапісы, друкі, здымкі і інш. на адрас:

THE FRANCIS SKARYNA BYELORUSSIAN LIBRARY,
37 HOLDEN ROAD, LONDON, N12 8HS

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010

## ЗЬМЕСТ



*Printed by the Ukrainian Publishers Limited 200 Liverpool Rd., London, N1 1LF.*

© PDF: Kamunikat.org 2010 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2010